*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
15
САКАВІКА
1991 г.
№ 11 (3577)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)


## ЧЫТАЙЦЕ



## ДА НАРОДА БЕЛАРУСІ

Дарагія суайчыннікі!

17 сакавіка 1991 года ў нашай краіне праводзіцца рэферэндум. Ён павінен даць адказ на лёсаноснае пытанне: быць ці не быць Саюзу ССР.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі, Савет Міністраў БССР звяртаюцца да вас, грамадзяне Беларусі, з заклікам — прыняць актыўны ўдзел у рэферэндуме. Заклікаем вас пры вызначэнні свайго выбару кіравацца цвярозым розумам і сумленнем, пачуццём абавязку перад цяперашнім і будучымі пакаленнямі.

Ваша «так» Саюзу захавае СССР як абноўленую федэрацыю, дазволіць аднавіць і ўмацаваць эканамічныя і культурныя сувязі паміж рэгіёнамі краіны.

Ваша «так» Саюзу адродзіць дружбу і добрасуседства, мір і ўзаемаразуменне нашых народаў.

Ваша «так» Саюзу забяспечыць поўную гарантыю правоў і свабод чалавека любой нацыянальнасці.

Ваша «так» Саюзу стане залогам паспяховага развіцця роднай Беларусі, трывалым фундаментам надзейнай будучыні для нас з вамі, нашых дзяцей і ўнукаў.

Галасуйце за абноўлены Саюз ССР.

**ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР** **ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ** **САВЕТ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР**



Фота А. ШАБЛЮКА.

# ДЭПУТАТЫ І ПАЗІЦЫІ

**З 5 снежня 1990 года па 27 лютага 1991-га праходзіла трэцяя сесія Вярхоўнага Савета БССР, на якой былі прыняты законы аб асноўных прынцыпах народаўладдзя, аб уласнасці, аб фермерскай гаспадарцы, кодэкс аб зямлі, законы аб арэндзе, нацыянальным банку, прадпрымальніцтве, падатках, індэксацыі даходаў насельніцтва, сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на ЧАЭС, аб міліцыі і інш. Акрамя таго, прыняты цэлы комплекс сацыяльных праграм, пастаноў і законапалажэнняў. Шмат якія законы разгледжаны ў першым чытанні. Пра маштабную работу, зробленую народнымі дэпутатамі, яшчэ раз нагадалі журналістам удзельнікі прэс-канферэнцыі па выніках сесіі. На прэс-канферэнцыі, якая адбылася 6 сакавіка ў Доме палітасветы, выступілі першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі С. Шушкевіч, кіраўнікі некаторых пастаянных дэпутацкіх камісій.**

Як сказаў С. Шушкевіч, застаецца яшчэ цэлы шэраг пытанняў, па якіх у парламенце няма канцэптуальнай згоды. Не ўдалося ўнесці неабходныя змены ў Канстытуцыю БССР. У прыватнасці — з-за таго, што часта не было кворуму (парламент, як вядома, працуе ў няпоўным складзе). Прыняцце шмат якіх рашэнняў зацягваецца, бо на працаздольнасць Вярхоўнага Савета ўплывае недастатковая палітычная культура, адсутнасць канструктыўнай пазіцыі ў некаторых дэпутатаў. Тым не менш, на думку першага намесніка, Вярхоўны Савет хоць і з цяжкасцямі, але рухаецца наперад. Вельмі важна, што нямала важных рашэнняў было прынята пры ўдзеле апазіцыі, на падставе кансенсуса.

Старшыня камісіі па законнасці М. Грыб, адказваючы на пытанні журналістаў, падкрэсліў, што законы ў Вярхоўным Савеце прапануюцца не групамі (камуністаў або апазіцыі), а афіцыйнымі парламенцкімі структурамі — г. зн. камісіямі, у кожнай з якіх прадстаўлены ўсе групы і плыні.

Трэба сказаць, прэс-канферэнцыя, якая пачалася ў даволі запаволеным тэмпе, паступова перайшла ў вельмі ажыўленую палеміку паміж некаторымі яе ўдзельнікамі. І гэта міжволі прымусіла ўспомніць дэбаты, што неадойчы разгараліся на мінулай сесіі.

Неадназначна адказалі дэпутаты на пытанне, якое найбольш цікавіла журналістаў,— адносна пазіцыі Вярхоўнага Савета наконт Саюзнага дагавора. Напрыклад, на думку старшыні камісіі па эканамічнай рэформе Л. Козіка, які прадстаўляў нашу рэспубліку на адным з этапаў падрыхтоўкі Дагавора, яго новы праект кардынальна перапрацаваны і дае магчымасць Беларусі захаваць свой суверэнітэт і свае эканамічныя інтарэсы ў складзе Саюза.

На погляд М. Грыба, усё залежыць ад таго, якія правы будуць мець рэспублікі ў абноўленым Саюзе. Паводле яго меркавання, Саюз павінен спалучаць у сабе элементы як федэрацыі, так і канфедэрацыі.

Паколькі няясна, якім будзе Саюз, нельга было згаджацца на рэферэндум, даводзіў С. Шушкевіч. На яго погляд, пытанне рэферэндуму аб захаванні СССР сфармулявана некарэктна з пункту гледжання логікі. Але адказаць на яго так ці інакш — гэта ўжо справа сумлення. Дарэчы нагадаць, што на сесіі вылучалася прапанова аб уключэнні ў бюлетэнь дадатковага пытання, сфармуляванага Вярхоўным Саветам Беларусі, але прапанова не прайшла.

Сакратар Цэнтральнай рэспубліканскай камісіі рэферэндуму І. Ліхач паведаміў, што ў адпаведнасці з законам СССР на тэрыторыі Беларусі сфарміраваны 7 выбарчых акруг. Галасаванне будзе праводзіцца на 6839 участках. У спісы для галасавання ўнесены звыш 7 мільёнаў 327 тысяч выбаршчыкаў, якім 17 сакавіка трэба будзе сказаць сваё слова аб будучыні Саюза ССР.

У прэс-канферэнцыі прынялі таксама ўдзел старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па галоснасці І. Каратчэня, старшыня камісіі па пытаннях цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва А. Сасноў, сакратар камісіі па пытаннях работы Саветаў В. Даўгалёў, сакратар камісіі па аграрных пытаннях А. Апацкі. Яны адказалі на пытанні аб дэцэнтралізацыі кіравання эканомікай ва ўмовах рынку, аб зямельнай рэформе, аб пражытковым мінімуме, аб узаемаадносінах парламента з выбаршчыкамі і сродкамі масавай інфармацыі, аб прывілеях і на многія іншыя.

**В. Т.**

# З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ—20 МАЯ

Адбылося пасяджэнне аргкамітэта па падрыхтоўцы IX з'езда пісьменнікаў СССР. Яго вёў старшыня аргкамітэта С. Міхалкоў.

На абмеркаванне былі пастаўлены тры пытанні: рэгламент работы з'езда, праекты новых статутаў Саюза пісьменнікаў СССР і Літфонду.

З паведамленнямі па асноўных пунктах парадку дня выступілі: в. а. сакратара праўлення СП СССР С. Колаў, член камісіі па выпрацоўцы статута СП СССР А. Ваксберг і старшыня праўлення Літфонду СССР М. Гарбачоў. У спрэчках прынялі ўдзел М. Аляксееў, У. Арро, Ю. Бондараў, А. Вазнясенскі, В. Зуёнак, М. Канаат, Б. Мажаеў, Ал. Міхайлаў, Р. Мухамадзіеў, Ю. Мушкецік, Ц. Пулатаў, Б. Раманаў, Я. Сідараў, А. Сулейменаў, В. Цельпугоў, К. Ходаў, Б. Худайназараў і інш.

IX з'езд пісьменнікаў краіны будзе праходзіць з 20 па 25 мая ў Крамлёўскім палацы. Напярэдадні, 19 мая, адбудзецца апошні пленум цяперашняга праўлення СП СССР. У адрозненне ад папярэдніх гэты з'езд пачнецца не з даклада пра стан сучаснай савецкай літаратуры, а з выступленняў нашых вядомых пісьменнікаў. Вырашана адмовіцца і ад секцыйнай формы работы— усе пасяджэнні будуць пленарнымі.

Члены аргкамітэта прынялі за аснову прапанаваныя для абмеркавання праекты новых статутаў СП СССР і Літфонду, даручыўшы дапрацоўку іх адпаведным камісіям.

Былі разгледжаны і іншыя пытанні, у прыватнасці, звязанае з пісьмом групы пісьменнікаў Ленінграда — аб парушэннях у працэдуры вылучэння дэлегатаў на з'езд і ў самім галасаванні.

На пасяджэнні было абвешчана рашэнне сакратарыята праўлення СП СССР аб выплаце членам саюза Літфонду ва ўмовах пераходу нашай эканомікі на рыначныя адносіны грашовай кампенсацыі ў памеры 100 руб. штомесяц.

Аргкамітэт прыняў Зварот да пісьменнікаў краіны ў сувязі з маючым адбыцца 17 сакавіка агульнанародным рэферэндумам.

# ЕВАНГЕЛЛЕ ПА-САКРАТАРСКУ

**Газета «Драгічынскі веснік» (№ 18 за г. г.) надрукавала артыкул першага сакратара Драгічынскага райкома КПБ Б. Асаўцова «Роздум напярэдадні рэферэндуму аб лёсе Саюза». Тэма, што і казаць — актуальная. І хоць з моманту публікацыі артыкула прайшоў ужо час, злабадзённасць яго, можна сказаць, не зменшылася.**

**Артыкул, як можна зразумець з першых яго радкоў, напісаны пад уплывам і, так бы мовіць, у развіццё аб'яднанага Пленума ЦК і ЦКК КПСС, што адбыўся ў студзені. Не сказаць, каб гэты твор «партыйнай публіцыстыкі» надта адрозніваўся ад многіх падобных яму — наскрозь ідэалагізаваных і малазместоўных, якія мы чыталі ў сваім жыцці неаднойчы. А вось экспрэсіі ў лексіцы першага сакратара райкома могуць, я думаю, пазайздросціць і лідэр расійскіх камуністаў Палазкоў і нават палкоўнікі Алксніс з Петрушэнкам.**

**«История не знает ни одной страны мира, — заяўляе Б. Асаўцоў, — чтобы (так у тэксце! — В. Т.) в самых верхних эшелонах власти за такое короткое время появилось столько предателей и совершенно столько предательства против своего же государства... К сожалению, в нашей стране это стало явью». Хто ж гэтыя здраднікі? Аўтар артыкула і не думае хаваць іх імёнаў, смела выкрывае ідэйных ворагаў. Гэта былы міністр замежных спраў Шэварднадзе, былыя члены прэзідэнцкага савета і сакратары ЦК Мядзведзеў і Якаўлеў. Шэварднадзе, напрыклад, і іншыя «палітыкі-міжнароднікі», як сцвярджае аўтар, «за 2 года похоронили мировую систему социализма». Своеасаблівы погляд на ролю асобы ў гісторыі і гістарычны працэс, ці не праўда?**

**Аўтар не цырымоніцца і з тымі, хто ніколі не ўваходзіў у кола наменклатуры, а быў выбраны дэмакратычным шляхам сваім народам. Чаго вартыя выразы «профашистская клика Ландсбергиса», «родной папаша нынешнего Ландсбергиса», «ярая ненависть у молодого выкормыша к русскому народу» і да т. п.**

**Але асабліва крыўдна, прызнаецца аўтар, за «некоторых наших русских же по крови (!) перевертышей, которые на популистской волне добрались до различного уровня эшелонов власти». Як вы ўжо здагадаліся, маецца на ўвазе Б. Ельцын, «который способствует, прямо подталкивает процесс развала армии, развала самого Союза ССР».**

**Назваўшы некалькі імёнаў, аўтар артыкула пераходзіць да глабальных абагульненняў: «нынешние радикалы, демократы всех мастей призывают к развалу не просто социалистического государства, а к развалу государства вообще, чтобы остались существовать сами по себе республики, края, автономные образования, каждые со своими заботами, бедами, со своей армией. Какой абсурд! Какое предательство!»**

**Сапраўды, абсурд. Далей, як кажуць, ехаць няма куды. Ці ведае аўтар, у чым розніца паміж рэспублікай, краем і аўтаноміяй і што такое дзяржаўны суверэнітэт?**

**Аўтар заклікае далей «всех людей доброй воли, кому дорого наше будущее и будущее наших потомков, прийти в день референдума 17 марта к урнам и высказать свое отношение путем голосования за обновленный Союз Советских Социалистических Республик».**

**Хачу папрасіць прабачэння ў чытачоў за тое, што многа і падрабязна цытую гэты артыкул. Але перадаць яго змест нармальнымі чалавечымі словамі цяжка.**

**Безумоўна, першы сакратар райкома партыі мае права, як і кожны чалавек, выказаць свой уласны погляд на рэчы, свае адносіны да любых падзей — у меру свайго разумення і пісьменнасці. Аднак дзіўна бачыць у артыкуле, поўным непрыхаванай нянавісці да апанентаў і нават лаянкі, спасылкі на ...Евангелле («В Евангелии сказано, что добро есть соль жизни».) і чытаць развагі аб маралі. «Так будем же добрыми и внимательными, вежливыми к себе (!) и друг другу,— заклікае аўтар і заканчвае: «Всегда надо помнить, что наш народ во все времена... отличался высокой нравственностью».**

**Аўтару таксама варта ўспомніць, што людзі — не авечкі, і народ наўрад ці мае патрэбу ў падобнага роду «пастырах» з іх пропаведзямі.**

**Віталь ТАРАС.**

# ЗВАРОТ

## аргкамітэта па падрыхтоўцы IX з'езда пісьменнікаў СССР да калег-пісьменнікаў

**Уся гісторыя сусветнай і нашай айчыннай культуры пераканаўча даказвае, што для адраджэння і развіцця нацыянальных культур неабходна шырокая духоўная прастора, дзе суіснуюць, узаемна ўзбагачаючы адзін аднаго, ідэі, мастацкія вобразы, тэмы, мовы, усё багацце форм і традыцый, выпрацаваных усімі народамі. У сваіх вузкіх геаграфічных межах нацыянальная культура, літаратура марнее, робіцца перыферыйнай, губляе сваю шматколернасць.**

**Цяпер наша грамадства стаіць перад гістарычным выбарам. 17 сакавіка, вызначаючы сваё стаўленне на карысць абноўленага саюза суверэнных рэспублік, мы тым самым яшчэ раз выкажамся на карысць шматнацыянальнай культуры і літаратуры. Кіруючыся маральнымі гуманістычнымі ідэаламі, літаратуры абноўленага Саюза ССР будуць служыць духоўнаму ўзвышэнню чалавека, яго імкненню да дружбы і братэрства нашых народаў.**

**М. АЛЯКСЕЕЎ, У. АРРО, Ш. АРСАНУКАЕЎ, Ю. БОНДАРАЎ, А. ГОГУА, Ю. ГРЫБАЎ, М. ГАРБАЧОЎ, В. ГУСЕЎ, А. ДАРЖАЙ, А. ДЖАКШЫЛЫКАЎ, А. ЖУКАЎ, В. ЗУЁНАК, Т. КАІПБЕРГЕНАЎ, М. КАНААТ, І. КАПАЕЎ, С. КОЛАЎ, У. КРУПІН, А. МІХАЙЛАЎ, С. МІХАЛКОЎ, А. МІШЫН, Б. МАЖАЕЎ, Р. МУХАМАДЗІЕЎ, В. НУРАЎ, У. ОГНЕЎ, Б. АЛЕЙНІК, А. ПРАХАНАЎ, В. ПАВАЛЯЕЎ, Ц. ПУЛАТАЎ, В. РОЗАЎ, Б. РАМАНАЎ, С. САМСОНАЎ, Я. СІДАРАЎ, К. СКВАРЦОЎ, А. СУЛЕЙМЕНАЎ, Ю. СУРАЎЦАЎ, К. ТУРСУНКУЛАЎ, В. ЦЕЛЬПУГОЎ, З. ТХАГАЗІТАЎ, К. ХОДАЎ, Б. ХУДАЙНАЗАРАЎ, Г. ЮШКОЎ.**

**АДГАЛОСКІ**

# Такі вось рынак...

З надыходам рынку ў нявыкрутку трапілі раённыя выданні. У іх ліку апынулася столінская раённая газета «Навіны Палесся», чый наклад неблагі — звыш 14 тысяч асобнікаў. Аднак з 1991 г. павялічыліся выдаткі на яе выпуск: кошт на экспедзіраванне, дастаўку і перасылку ўзрос у 10 разоў, на паперу — ў 5 разоў, а на друкаванне — удвая. Такая сумная статыстыка з'явілася нядаўна ў «Навінах», якая тычыцца ўсіх раённых і аб'яднаных газет у Брэсцкай вобласці. Там жа паведамляецца, што «першапачатковыя выдаткі на газету, якія ацэньваліся папярэдне на гэты (1991.—**Ю. Д.**) год у суме 60 тысяч рублёў, выраслі (па яшчэ не ўдакладненых разліках) да 136 тысяч рублёў».

Апынуўшыся ў такіх умовах, рэдакцыя вымушана была звярнуцца да гаспадарак раёна па дапамогу. Некалькі з іх пералічылі на рахунак газеты 15 тысяч рублёў, аднак гэта мізер у параўнанні з існымі патрэбамі выдання.

І вось новы ўдар. Упраўленне па друку Брэсцкага аблвыканкама задавальняе патрэбы ў паперы толькі на 69%. Не бачачы іншага выйсця, рэдакцыя «Навін Палесся» вымушана выпускаць з 26 лютага газету двойчы на тыдзень замест трохразовага выхаду.

Колькі часу давядзецца існаваць у такіх умовах — ніхто не ведае. Толькі пры далейшым наступе рынку не выключана, што раёны і правінцыяльныя гарады могуць застацца без сваіх газет.

**Юрась ДУБІНА.**

г. Столін.

# Як Лепель «распагонілі»

Гісторыя не абышла бокам Лепель. Яго дружыны ўдзельнічалі ў славутай Грунвальдскай бітве 1410 года. За мужнасць ваяроў Лепель удастоіўся гонару мець герб «Пагоня». Праўда, нідзе гэта не афішуецца, паколькі меч «Пагоні» страшэнна палохае партапаратчыкаў самых розных рангаў. І вось нейкі прадстаўнік улады, ці то патрыёт свайго горада, ці проста адміністратар-«буквоед», вырашыў намаляваць герб «Пагоня» на стэле пры ўездзе ў горад з боку Мінскае шашы. Доўга цешыла вочы лепельцаў, гасцей ды праезджых выява конніка з мячом у руцэ. Аднак бы сярпом рэзаў выгляд намаляванага мяча лепельскую бюракратыю. І не вытрымала яна, загадала знішчыць «Пагоню». Цяпер яе месца займае вялізны ордэн Вялікае Айчыннае вайны (невядома толькі, калі Лепель ды за якую бітву быў ім узнагароджаны).

**Уладзімір ШУШКЕВІЧ.**

г. Лепель.

# Мяшок на «Тэлескоп»?

Аб маладзёжных праблемах уголас, без прыкрас пачала расказваць газета, якая з'явілася ў канцы мінулага года ў Светлагорску. Заснавальнікам «Тэлескопа» (менавіта такую назву яна атрымала) стаў гаркам камсамола. Але калі большасць чытачоў падтрымала газету, то ў «старэйшых таварышаў» з гаркама партыі яна выклікала адмоўную рэакцыю. З першых выпускаў яе пачалі абвінавачваць ва ўсіх смяротных грахах: і гэта не так, і тое не гэтак. Урэшце, не знайшлі нічога іншага, як павесіць ярлык «антысавецкай», нават «антыкамуністычнай». Змагарам за чысціню камуністычнай ідэі «Тэлескоп» паўстаў косткай у горле. Падалі свой голас і паважаныя ветэраны. У гарадской газеце «Светлагорскія навіны» з'явілася рэпліка члена КПСС з 1947 г. М. Салаўя пад назвай «Тэлескоп» расчараваў». Не спадабалася ветэрану новае выданне, лепей было б, на яго думку, каб па-ранейшаму два разы ў месяц выходзіла ў «Светлагорскіх навінах» маладзёжная старонка. У адносінах да маладых журналістаў ветэран салідарны з меркаваннем «адной чытачкі», якая прапаноўвае «накінуць на рэдкалегію пусты мяшок». Ці не праўда, вельмі зручны спосаб змагацца з тымі, хто думае інакш? І гэта замест добрага слова да моладзі!

**Мікола ПАСЕДЗЬКА.**

г. Светлагорск.

# Зверыць палітычныя гадзіннікі

## Нататкі з пасяджэння Каардынацыйнага савета Дэмакратычнага кангрэса

За месяц, які прайшоў пасля ўстаноўчай канферэнцыі Дэмкангрэса ў Харкаве, адбылося шмат важных палітычных падзей: апытанне грамадскай думкі ў Літве, заява Ельцына, мінская прамова Гарбачова, наблізіўся час правядзення рэферэндуму СССР. І дэмакратычныя сілы рэспублік СССР сабраліся 2-3 сакавіка ў Маскве на чарговае пасяджэнне Каардынацыйнага савета Дэмкангрэса, каб выпрацаваць агульную стратэгію дзейнасці, абмяняцца інфармацыяй, так бы мовіць, зверыць палітычныя гадзіннікі. У канферэнц-зале гатэля «Расія» прысутнічалі прадстаўнікі 19 арганізацый, сяброў ДК. Адкрываючы пасяджэнне, сябра партыі Дэмакратычнага адраджэння Украіны, народны дэпутат Украіны Аляксандр Емец гаварыў аб асаблівасцях цяперашняга палітычнага моманту: аб унітарызме імперскіх структур на ўзроўні Саюза і аб таталітарызме на ўзроўні рэспублік. Па яго словах, «рэакцыя структур КПСС на стварэнне ДК была найлепшая: сакратар ЦК КПСС В. Купцоў ацаніў ДК як аднаго з найбольш сур'ёзных праціўнікаў КПСС». Як лічыць А. Емец, зараз у дэмакратычных рухах і партыях адбываецца пэўная кансалідацыя — найбольш крайнія радыкальныя плыні падцягваюцца да цэнтра. Пасля слова было прадастаўлена прэм'ер-міністру Эстонскай Рэспублікі Э. Савісаару. Ён адзначыў, што нават у Эстоніі ўладныя структуры КПСС і КДБ захаваліся, «у імператарскім палітычным тэатры мы — статысты». Робячы гістарычны экскурс, Э. Савісаар адзначыў, што крок да дэмакратыі ў Расіі заўсёды ішоў на карысць Эстоніі: так было і ў лютым 1917-га, так было і ў 1990-ым. 14 студзеня, слухаючы прамову Ельцына ў Таліне, Эстонія ацаніла душу і веліч Расіі. Эстонскі прэм'ер сказаў, што для праціўнікаў незалежнасці Эстоніі Б. Ельцын, Г. Папоў і А. Сабчак — такія ж ворагі, як і кіраўніцтва Эстонскай дзяржавы. М. Гарбачоў, на думку Э. Савісаара, — трагічная фігура, ён разбудзіў рэвалюцыйныя працэсы, але не здолеў знайсці сваё месца ў іх.

Прадстаўнік Сацыял-дэмакратычнай партыі Азербайджана Арас Алізадэ распавёў аб тым, што ў рэспубліцы ствараецца палітычны блок паміж нацыянал-радыкаламі і кампартыяй. Ён гаварыў аб падаўленні свабоды ў Азербайджане: кампартыя сфальсіфікавала выбары ў Саветы, таму, напрыклад, апазіцыя ў ВС Азербайджана налічвае ўсяго 30 дэпутатаў. Дэмакратычны блок Азербайджана ўзяў курс на актыўны байкот усесаюзнага рэферэндуму: ён заклікае выбаршчыкаў ісці на выбары, браць бюлетэнь і здаваць яго ў камітэт «Антырэферэндуму». На думку А. Алізадэ, такая тактыка прадухіляе магчымасць фальсіфікацыі і мае шанцы на поспех — азербайджанцы не забылі студзеньскую бойню ў Баку ў мінулым годзе.

Аўтар гэтых радкоў, выступаючы ад імя БНФ, расказаў аб наступленні на свабоду слова ў Беларусі, аб спыненні прамой трансляцыі з сесій рэспубліканскага парламента, аб спробах камуністаў маніпуляваць «Народнай газетай». Пазіцыя БНФ у адносінах да рэферэндуму — заклікаць жыхароў рэспублікі, якія вырашылі галасаваць, сказаць «не».

Змястоўным было выступленне сустаршыні Рэспубліканскай партыі Расіі, народнага дэпутата РСФСР У. Лысенкі. Лідэр расійскіх рэспубліканцаў заявіў, што палітычны саюз чатырох рэспублік — Беларусі, Казахстана, Украіны і Расіі — не здзейсніўся, бо кіраўнікі Беларусі і Украіны дэзавуіравалі сваю папярэднюю згоду. У. Лысенка казаў аб стварэнні шырокай антытаталітарнай кааліцыі, падкрэсліваў, што трэба супрацоўнічаць з радавымі членамі кампартыі, а таксама з «ліберальнымі камуністамі», якія аказаліся «не ко двору» пры новым курсе Гарбачова, — з Э. Шэварднадзе, А. Якаўлевым. С. Шаталіным.

Былы палітвязень, народны дэпутат РСФСР, святар Глеб Якунін прысвяціў сваю прамову эканамічным пытанням. Ён спаслаўся на меркаванне вядомага эканаміста В. Сялюніна аб тым, што калі не будзе эканамічнай рэформы, нас чакае страшэнная галеча і масавыя забастоўкі. Па словах святара, «Дэм. Расія» падштурхнула Ельцына да яго вядомай прамовы; Ельцыну неабходна было рашуча адмежавацца ад гібельнай эканамічнай палітыкі Гарбачова — Паўлава. Г. Якунін падтрымаў прапанову Ельцына аб перадачы ўлады Савету Федэрацыі. «Бог нам, дэмакратам, паможа!» — так закончыў ён сваю прамову.

Іван Драч, старшыня «Руху», гаварыў аб падтрымцы ўкраінскай дэмакратыяй Б. Ельцына. Ён расказаў аб асаблівасцях ідэалагічнай дзейнасці камуністаў Украіны. На Украіне назіраюцца пэўныя супярэчнасці ўнутры кампартыі. Існуе група У. Гурэнкі, першага сакратара ЦК КПУ, якая цалкам арыентавана на Старую плошчу, і група Л. Краўчука, старшыні ВС Украіны, якая прыхільна ставіцца да суверэнітэту рэспублікі. Украінскія дэмакраты выкарыстоўваюць гэтыя супярэчнасці. Яны дамагліся вынясення на рэспубліканскі рэферэндум свайго пытання аб Саюзе, здолеўшы дабіцца падтрымкі групы Л. Краўчука.

На Каардынацыйным савеце выступілі таксама прадстаўнікі Сацыял-дэмакратычнай партыі Казахстана, НФ Латвіі, Сацыял - дэмакратычнай партыі Літвы, выказалі жаданне ўдзельнічаць ў Дэмкангрэсе і былі прыняты ў яго Народны рух Узбекістана «Бірлік», Дэмакратычная партыя Узбекістана і рух «Маладая Расія».

У адпаведнасці з рашэннямі Харкаўскай канферэнцыі пачалося стварэнне ў Кіеве інфармацыйнага фонду ДК — свайго роду інфармацыйнага агенцтва дэмакратычных сіл.

У Палітычнай рэзалюцыі Каардынацыйны савет заклікаў да стварэння шырокай антытаталітарнай кааліцыі, у якую могуць увайсці дэмакратычныя рухі і партыі, рабочы рух, — у прыватнасці, «Конфедерация труда», забастовачныя камітэты, незалежныя прафсаюзы, аб'яднанні прадстаўнікоў «новай» эканомікі, арандатары, фермеры, каапературы, рухі моладзі, а таксама дэмакратычныя сілы ў войску, МУС, КДБ.

У «Заяве аб эканамічным і палітычным становішчы ў СССР» сцвярджаецца, што «без скасавання вялікадзяржаўных адносін няма шляху не толькі да дэмакратыі, але і выхаду з эканамічнага крызісу... Эканаміка СССР стаіць на парозе гіперінфляцыі... Выйсце — толькі ў рашучым пераходзе да рынку». Заява заклікае грамадзян СССР, якія возьмуць удзел у рэферэндуме, сказаць не «абноўленай федэрацыі», не — прымусу Цэнтру над рэспублікамі.

Была прынята заява ў падтрымку палітычнай пазіцыі Б. Ельцына.

ДК вырашыў склікаць у красавіку міжпарламенцкую канферэнцыю дэмакратычных фракцый ВС рэспублік дзеля абмеркавання асноўных прынцыпаў стварэння Садружнасці Суверэнных Дзяржаў. Распрацоўка адпаведнага дакумента прапанавана Народнай Радзе ВС Украіны.

Каардынатарамі па падрыхтоўцы канферэнцыі з боку Беларусі прапанаваны народны дэпутат рэспублікі З. Пазняк і народны дэпутат СССР А. Дабравольскі.

**Ю. ДРАКАХРУСТ,**
**член Сойма БНФ «Адраджэнне»,**
**член Каардынацыйнага савета Дэмакратычнага кангрэса.**

# «Хай прэзідэнт не хвалюецца...»

## Агляд чытацкай пошты

Не раз мы ўжо адзначалі, што пошта «ЛіМа» спецыфічная: чытачы бачаць у газеце ці не адзіную трыбуну ў рэспубліцы, з якой можна падзяліцца трывогамі і спадзяваннямі ў адносінах да лёсу мовы, народа, гісторыі і культуры. І большасць пісьмаў «ЛіМа» прысвечана менавіта гэтым праблемам.

Але досыць часта чытачы звяртаюцца да праблем грамадскага і палітычнага жыцця рэспублікі. Вось ліст мінчаніна **А. Шаршнёва.** Ён шчыра і эмацыянальна адгукаецца на нечаканы візіт М. Гарбачова на Беларусь. Чытач лічыць, што мэта «падарожжа» відавочная — паглядзець на настрой людзей і набраць палітычныя дывідэнды перад хуткім рэферэндумам. «Дагэтуль прэзідэнт рэальна нічога не зрабіў для выратавання людзей у асабліва пацярпелых Гомельскай і Магілёўскай абласцях... Гэтыя людзі паміраюць, але трываюць і яшчэ з глыбокай пашанай на тварах вітаюць прэзідэнта па загадзе начальства хлебам-соллю»,— піша аўтар ліста. «Але хай прэзідэнт не хвалюецца, Беларусь пераважнай большасцю прагаласуе за Саюз»,— канстатуе ў заключэнне А. Шаршнёў.

Пра месца Беларусі ў разнастайных саюзах і уніях за ўсю яе гісторыю (з Польшчай, Расіяй, у СССР) разважае ў сваім лісце чытач **І. Малашка** са Слуцка і прыходзіць да высновы, што перш-наперш Беларусі трэба пачуцца рэальна незалежнай, суверэннай дзяржавай, а потым ужо шукаць ці ўваходзіць у той ці іншы Саюз.

Прыгадаем яшчэ адзін ліст, прысвечаны маючаму адбыцца рэферэндуму. **Алесь Карпенка** з Драгічына з болем піша пра сітуацыю, якая склалася ў краіне і Беларусі ў прыватнасці: «Хітрасцю ды аўтаматамі Цэнтр «добровольно объединяет в обновленный Союз» непаслухмяных». Чытач адзначае, што сёння ісціна не вызначаецца колькасцю галасоў. «Партыя пытаецца дазволу на яшчэ не абноўлены Саюз, быццам не ведаючы, каго яна выхавала за час сваёй улады»,— заўважае Алесь Рыгоравіч.

Тэма «польскага» каталіцтва згадваецца ў двух лістах з Гродні. **Марыя Жылюк** прапануе змясціць артыкул У. Сосны «Адкуль палякі на Беларусі» ў «Гродненской правде» і брэсцкай «Заре», каб як мага большая колькасць «перавернутых» палякаў зразумела, што веравызнанне ніколі не вызначала нацыянальнасць.

Цікавы ліст даслаў **С. Буднік.** Аналізуючы нацыянальны склад насельніцтва Гродзеншчыны, аўтар піша: «Мясцовыя людзі добра ведаюць, што падзел на палякаў і беларусаў ідзе толькі па веры. Усе палякі — каталікі, а ўсе беларусы — праваслаўныя. Старыя людзі нават не ведаюць назву веры, яны кажуць: руская ці польская вера. Акрамя веры, паміж гарадзенцамі практычна няма ніякай розніцы. Возьмем для прыкладу вёскі, якія стаяць побач, — беларускую ды «польскую». Жыхары з іх маюць адзіны антрапалагічны выгляд, аднолькава працуюць на зямлі, аднолькава гатуюць снядание, маюць адзіную нацыянальную вопратку, аднолькава святкуюць хрысціны, вяселлі, хаўтуры. У святы толькі тое, што тычыцца касцёла ці царквы, робяць па-рознаму. А галоўнае, усе размаўляюць на адной мове. І мова гэтая—беларуская».

А ўвогуле найбольшая колькасць лістоў, што дасланы ў рэдакцыю,— споведзі і думкі нашых чытачоў пра лёс мовы, Беларусі і беларусаў. Вядома, пошта не можа ахапіць увесь пласт праблем беларускасці. Ды ўсё ж... Адно пісьмо, у якім распавядаецца пра набалелае на душы, далучаецца да другога, трэцяга, чацвёртага ліста,— глядзіш, і ствараецца ці не цэласная панарама сённяшніх падзей і з'яў, што ў многім вызначаюць заўтрашні лёс мовы і народа.

Вось, напрыклад, ліст студэнткі ГДУ імя Ф. Скарыны **А. Сувалавай.** Прысвечаны ён «дзіўным метамарфозам», што адбываюцца з органам Гомельскага абласнога камітэта КПБ і абласнога Савета народных дэпутатаў «Гомельскай праўдай». Газета, якая заўсёды выходзіла па-беларуску, раптам пачала раз-пораз друкаваць рускамоўныя матэрыялы! Думаеце, вырашылі павучыць беларусаў рускай мове? Ды не, растлумачылі дзяўчыне ў сакратарыяце: «проста друкуем матэрыялы на той мове, на якой пажадалі таго аўтары». «Цікава,— заўважае А. Сувалава,— як у рэдакцыі даведваюцца пра «жаданне» прэзідэнта? Чаму яго ўказы друкуюцца па-руску?»

Ці вось невялічкі допіс з Шаркоўшчынскага раёна ад **В. Крыўкі:** аўтару абрыдзела слухаць рэнегацкія выступленні народных дэпутатаў БССР на пасяджэннях сесіі. «Няўжо абраннікі беларускага народа так і не навучацца гаварыць на яго мове?» — здзіўляецца чытач.

**І. Кандраценя** з Ганцавіцкага раёна просіць узняць перад Вярхоўным Саветам пытанне аб размяшчэнні на тэрыторыі Беларусі новых вайсковых гарнізонаў, што выводзяцца з краін Усходняй Еўропы: «Няўжо не хапае на нашай зямлі танкаў ды ракет?»

Шмат пісьмаў прыходзіць ад беларусаў, што жывуць за межамі Бацькаўшчыны. **Леакадзія Мілош** з Вільні дзівіцца з сістэмы выкладання беларускай мовы ў беларускай школе, прыгадвае выпадак, калі дзеткі віленскіх беларусаў былі надта ўражаны дзіўнай руска-беларускай мовай артыстаў тэатра імя Янкі Купалы, якія гастралявалі ў Літве.

**Юрый Рыбальчанка** з Харкаўскай вобласці распавёў сумную гісторыю свае падпісной кампаніі на беларускі перыядычны друк: мала таго, што падпісацца ўдалося толькі ці не ў апошні дзень вызначанага тэрміну, дык за першы месяц года пошта так і не прынесла ніводнай газеты, ніводнага часопіса з Беларусі. А яшчэ чытач дзівіцца з нашага Беларускага радыё, якое ён слухае на Украіне: большасць эфірнага часу гучыць руская мова, рускія песні. А назва ж — Беларускае радыё!

**Пятрусь Капчык** з горада Ізяслава даслаў нам ліст, які цяжка назваць аптымістычным. Чалавек, маючы «чырвоныя» дыпломы філолага і таваразнаўцы кнігі, спецыяліст, які свабодна валодае сваёй роднай беларускай мовай, аказваецца непатрэбным у сваёй рэспубліцы. І гэта ў той час, калі мы стогнем ад недахопу беларускамоўных спецыялістаў! Цікава, ці не так?

Скончыць агляд хацелася б пісьмом рабочага з Мінска **І. Доўнара.** Атрымаўшы пяты нумар нашага штотыднёвіка (які быў пафарбаваны ў сіні колер) і не ўбачыўшы чырвонай паласы побач з назвай газеты, аўтар ліста засмуціўся. Бо, як ён піша, многія чытачы ўспрынялі чырвоную паласу ў назве «ЛіМа», як дэталь бел-чырвона-белага сцяга, як сімвал, нацыянальны знак Беларусі. І раптам яго не стала. Што тут сказаць? Сапраўды, «пасініўшы» лімаўскую паласу, мы і самі пераканаліся, што «твар» газеты не глядзіцца, чорны колер з сінім не спалучаецца, і вярнуліся да палоскі менавіта чырвонай.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ**
**І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

# ХОПІЦЬ ЭКСПЕРЫМЕНТАЎ

**Уладзімір НОВІК,**
**народны дэпутат БССР**

Зараз многа гаворыцца аб праекце новага саюзнага Дагавора, аб лёсе Саюза ССР і савецкіх рэспублік, з якіх ён складаецца. Асабліва актуальная гэта тэма напярэдадні рэферэндуму СССР па пытанні аб захаванні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

У многіх жыхароў нашай рэспублікі ўзнікае заклапочанасць у сувязі з працэсамі, якія сёння назіраюцца ў пераўтварэннях нацыянальна-дзяржаўнай будовы Саюза ССР. Губляецца вера ў перспектыву перабудовы, распачатай КПСС, якая зараз ёй жа і перашкаджае. Паглыбляецца крызіс грамадства, усё больш надзённым становіцца клопат аб самым неабходным для жыцця. Людзі стаміліся ад эксперыментаў. Колькі было за апошнія гады розных праграм і кампаній, ініцыятарам якіх выступае КПСС? Усе яны шумна пачыналіся, а заканчваліся вельмі ціха. Давайце ўспомнім толькі некалькі апошніх: харчовая праграма; жыллёвая праграма; барацьба з камп'ютэрнай непісьменнасцю; барацьба з п'янствам і алкагалізмам; барацьба з непрацоўнымі даходамі і г. д. Харчовая праграма закончылася тым, што краіна апынулася на мяжы голаду. Такія ж сумныя вынікі дала барацьба з п'янствам і алкагалізмам, непрацоўнымі даходамі. Ёсць небяспека, што і праграма пераходу да рынку — чарговая шуміха, якую ўздымае КПСС дзеля адцягнення ўвагі ад паступовага аднаўлення сваёй дыктатуры з дапамогай прэзідэнцкай формы праўлення, альбо стварэння фінансавай алігархіі былой партыйнай наменклатуры. Тым не менш, трэба адзначыць, што гэтыя працэсы з'яўляюцца аб'ектыўным вынікам вялікадзяржаўнай палітыкі, якая ажыццяўлялася ў нашай краіне, часам вельмі драматычна, на працягу апошняга стагоддзя. Настаў час даць ім гістарычную, сацыяльна-палітычную, эканамічную і маральную ацэнкі, каб не дапусціць паўтарэння трагічных для нашага народа памылак. У выніку вядомых гістарычных падзей 1917 года на тэрыторыі былой Расійскай імперыі былі ўтвораны першыя савецкія рэспублікі: РСФСР (7.11.1917); УССР (25.12.1917); БССР (1.01.1919); ЗСФСР (12.03.1922). Уладу ў гэтых рэспубліках бальшавікам удалося ўзяць пад свой кантроль. Працэс утварэння названых рэспублік праходзіў неадназначна, у складаных умовах грамадзянскай вайны. Разам з тым некаторыя часткі Расійскай імперыі атрымалі ад савецкага ўрада незалежнасць. Напрыклад, 31. 12. 1917 была прызнана незалежнасць Вялікага княства Фінляндскага. У канцы 1922 года першыя савецкія рэспублікі вырашылі аб'яднацца ў Саюз ССР.

Паколькі СССР быў утвораны на руінах Расійскай імперыі, то і многае пераняў ад яе. РСФСР надавалася роля метраполіі, а астатнім прызначалася роля «калоній-дамініёнаў». І вось зараз мы назіраем паступовы распад Саюза ССР на новыя, звычайна нацыянальна-дзяржаўныя, утварэнні. Значная частка насельніцтва Саюза ССР — галоўным чынам рускія і кансерватыўна настроеныя прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей — хацелі б захаваць Саюз ССР у выглядзе цяперашняга унікальнага шматнацыянальнага дзяржаўнага ўтварэння, якое дэ-юрэ быццам бы і з'яўляецца федэрацыяй, а дэ-факта ўяўляе сабой ні што іншае, як унітарную дзяржаву. Тым не менш, ёсць нямала прыхільнікаў пераўтварэння унітарнай дзяржавы СССР у Садружнасць Суверэнных рэспублік, і не разглядаць такую альтэрнатыву нельга. Хто ж з гэтых двух супрацьлеглых бакоў мае большую рацыю? Давайце звернемся да гісторыі і памяркуем. Расійская імперыя перад знікненнем з карты свету ўяўляла сабой вялізную дзяржаву, якая ўключала ў сябе тэрыторыі шматлікіх народаў і дзяржаў. Царская Расія стала імперыяй з часоў Пятра I у 1721 годзе пасля перамогі ў Паўночнай вайне. Пётр I, яго папярэднікі і паслядоўнікі ўвесь час імкнуліся да пашырэння межаў імперыі шляхам заваёў. Так, у канцы 18-га стагоддзя да Расійскай імперыі, пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, былі далучаны землі Беларусі, Прыбалтыкі, Правабярэжнай Украіны, Бесарабіі, Паўночнага Каўказа, часткі Польшчы. У 19-ым стагоддзі да Расійскай імперыі былі далучаны княствы Фінляндскае, Казахстан, Сярэдняя Азія, Закаўказзе і Памір. На пачатку 20-га стагоддзя на тэрыторыі імперыі пражывала звыш 100 народаў і нацыянальнасцей, прычым 57 працэнтаў насельніцтва складалі нярускія народы. Што магло ўтрымаць імперыю, якая заняла 1/6 частку зямнога шара і не збіралася супыняць свае заваёўніцкія апетыты? Толькі жорсткі прыгнёт нярускіх народаў, прымусовая русіфікацыя, падаўленне нацыянальных культур, распальванне міжнацыянальнай варожасці па прынцыпе «падзяляй і ўладар». Так, неўзабаве пасля далучэння былых тэрыторый Вялікага княства Літоўскага да Расійскай імперыі, пасля Польскага паўстання 1830—31 гадоў быў зачынены Віленскі універсітэт (1832), адменена дзеянне Трэцяга Статута Вялікага княства Літоўскага. Указам імператара Мікалая I ад 18 ліпеня 1840 года забаранялася афіцыйна ўжываць назвы Літва і Беларусь. Узмацненне нацыянальнага прыгнёту выклікала супраціўленне беларускага народа. У 1863—64 гадах адбылося нацыянальна-вызваленчае паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, якое было жорстка падаўлена імператарам. Тэрыторыя Расійскай імперыі ў 1914 годзе падзялялася на 81 губерню і 20 абласцей. Частка губерняў і абласцей былі аб'яднаны ў генерал-губернатарствы (Варшаўскае, Іркуцкае, Кіеўскае, Маскоўскае, Прыамурскае, Стэпавае, Туркестанскае і Фінляндскае). Афіцыйнымі васаламі Расійскай імперыі былі Бухарскае і Хівінскае ханствы. У 1914 годзе пад пратэктарат Расійскай імперыі быў прыняты Уранхайскі край (зараз Тувінская АССР). На чале Расійскай імперыі стаяў імператар, які валодаў самадзяржаўнай уладай. Гэта палажэнне замацоўвалася «Основными государтвенными законами». Заканадаўчую ўладу імператар ажыццяўляў праз Дзяржаўны Савет (з 1810) і Дзяржаўную думу (з 1906), дзяржаўным апаратам кіраваў праз Сенат, Савет міністраў і міністэрствы. Імператар быў Вярхоўным камандуючым узброеных сіл імперыі. У Расійскай імперыі хрысціянская царква з'яўлялася часткаю дзяржавы—«первенствующей и господствующей» была праваслаўная царква, якой імператар кіраваў праз Сінод. Што ж сталася з імперыяй пасля 1-й Сусветнай вайны? У 1917 годзе пасля шматлікіх узрушэнняў, якія мелі месца ў яшчэ нядаўна магутнай Расіі, усталёўваецца дыктатура пралетарыяту. Новаўтвораныя савецкія рэспублікі склалі Саюз ССР. Нель-

**(Працяг на стар. 12).**

**17 сакавіка, у нядзелю, адбудзецца ўсесаюзны рэферэндум. Усім, хто прыйдзе ў гэты дзень на выбарчыя ўчасткі, прапануецца адказаць «так» або «не» на пытанне: «Ці лічыце вы неабходным захаванне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як абноўленай федэрацыі раўнапраўных суверэнных рэспублік, у якой будуць у поўнай меры гарантаваны правы і свабоды чалавека любой нацыянальнасці?»**

**Формула і сам факт правядзення рэферэндуму Цэнтрам выклікалі супярэчлівую рэакцыю ў рэспубліках, у тым ліку і на Беларусі. Пра гэта сведчыць і наша чытацкая пошта. Сёння мы друкуем некаторыя пісьмы на гэту тэму і артыкул народнага дэпутата БССР У. Новіка.**

**Як вядома, днямі апублікаваны новы праект Саюзнага дагавора, які цяпер называецца — Дагавор аб Саюзе суверэнных рэспублік. Выступаючы ў Вярхоўным Савеце СССР, Прэзідэнт М. Гарбачоў сказаў, што гэты дакумент дае дакладнае ўяўленне, якой будзе абноўленая федэрацыя, а значыць, дае магчымасць кожнаму зрабіць свядомы выбар. Новы праект сапраўды шмат у чым адрозніваецца ад папярэдняга. Але, тым не менш, ён, як нам здаецца, не здымае найбольш істотных пытанняў. І тыя палажэнні артыкула У. Новіка, якія тычацца праекта Дагавора, прынятага на IV З'ездзе народных дэпутатаў СССР, у галоўным, на нашу думку, не страцілі сваёй актуальнасці напярэдадні рэферэндуму.**



Фота А. ШАБЛЮКА.

# Саюзны дагавор: «АПАРАТНАЯ» І «ДЭМАКРАТЫЧНАЯ» МАДЭЛЬ

На сённяшні дзень актыўна абмяркоўваюцца дзве канцэпцыі абнаўлення саюзных адносін. Першую называюць прэзідэнцкай, цэнтралісцкай, апаратнай, федэратыўнай. Другую — часцей за ўсё — канфедэратыўнай, федэратыўна-канфедэратыўнай, дэмакратычнай. У аснову дзвюх канцэпцый пакладзены супрацьлеглыя прынцыпы. У першай: асноўны суб'ект дагавора — «моцная» федэратыўная ўлада, кардынальныя праблемы вырашаюцца ў цэнтры, а на месцах і ў рэспубліках будуць рабіць тое, што «цэнтр» ім пакіне (Г. Х. Папоў. «Известия», 20.12.90 г.). Другая канцэпцыя сцвярджае, што паколькі «цэнтр» страціў аўтарытэт і давер, асноўную работу па перабудове павінны ўзяць на сябе рэспублікі, менавіта яны павінны вызначыць функцыі «цэнтра» паводле «рэшткавага» прынцыпу.

Адным словам, прыхільнікі першай, кіраўнічай мадэлі робяць стаўку на канцэнтрацыю распарадчай і выканаўчай улады ў руках Прэзідэнта СССР, саюзнага ўрада, а таксама службовых асоб, якія на месцах прадстаўляюць іх інтарэсы. Закон СССР «Аб дадатковых мерах па стабілізацыі эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця краіны» ад 24 верасня 1990 г. і пастанова ВС СССР ад 23 лістапада 1990 г. «Аб зменах і дапаўненнях да Канстытуцыі СССР» — першыя крокі на шляху «ўкаранення» прэзідэнцкага праўлення на тэрыторыі СССР.

Разам з тым, натуральна меркаваць, што спроба рэстаўрацыі ў маштабах усёй нашай краіны інстытута дзяржаўнага федэралізму (ці унітарызму, калі хочаце), дэ-факта ўжо не існуючага, праз небывалую канцэнтрацыю уладных паўнамоцтваў у руках Прэзідэнта (падзеі апошніх дзён паказваюць — работа ў гэтым накірунку вядзецца паслядоўна і метадычна) непазбежна прывядзе да палітычных рашэнняў, якія насельніцтва ацэніць як рэакцыйныя, паколькі людзі ўжо «зжыліся» з дэмакратычнымі каштоўнасцямі, напрацаванымі пакутлівай гісторыяй сацыяльных рэформ другой паловы 80-х. Трэба дадаць да гэтага, што з мэтай захавання федэралізму ў адносінах паміж «цэнтрам» і рэгіёнамі Прэзідэнт краіны вымушаны будзе пайсці на прыпыненне функцый рэспубліканскіх парламентаў, якія байкатуюць указы Прэзідэнта, распараджэнні саюзнага ўрада, на часовую забарону дзейнасці палітычных партый і рухаў, на прыпыненне дзейнасці органаў друку, якія не падтрымліваюць курс Прэзідэнта.

У выніку дэмакратычным рэспубліканскім парламентам, якія нядаўна прынялі свае законы аб эканамічнай самастойнасці, парламентам, папулярным сярод народа, нічога не застанецца, акрамя таго, як заклікаць суайчыннікаў да грамадзянскага непадпарадкавання. «Вайна» законаў ператворыцца ў сутыкненне паміж народамі і федэральнай уладай, а магчыма, і ў грамадзянскую вайну. Выснова: «унітарная» мадэль Саюзнага дагавора азначае тупіковы шлях. Яна не аргументуецца і эканамічна, паколькі ў цяперашніх умовах наладжванне нармальных рыначных адносін магчыма толькі на базе канструктыўнай работы па пераадоленні нацыянальнай напружанасці — аднак жа не сілавымі метадамі, а праз палітычныя кампрамісы, г.зн. дэмакратычна.

Што ж нам рабіць у мэтах нацыянальнага ўпарадкавання на адной шостай частцы планеты?

Англійская прымаўка гаворыць: «Усё разумнае ад спалучэння». Дэмакратычная канцэпцыя Саюзнага дагавора прадугледжвае магчымасць для рэгіёна функцыяніраваць у складзе Саюза не толькі на канфедэратыўных, але і на федэратыўных пачатках — у залежнасці ад магчымасцей і абставін. Канцэпцыя гэтая кампрамісная, чаго не скажаш пра канцэпцыю Прэзідэнта. Яна больш гнуткая, больш сістэмная. І, вядома ж, пра ўсё гэта ўспомніцца аўтару гэтых радкоў 17 сакавіка, у дзень усенароднага рэферэндуму.

На маю думку, маючы адбыцца рэферэндум можа ператварыцца ў грандыёзную палітычную маніпуляцыю, у «прабіванне» ідэі унітарнага дзяржаўнага ўладкавання за кошт усенародных сімпатый да ідэі абнаўлення саюзных адносін.

**В. ДУДКО,**
**дацэнт Брэсцкага педінстытута, кандыдат філасофскіх навук.**

# НА ЗЫХОДЗЕ КВАДРЫ

## Паэзія 90-га: тэма, матывы, вобразы

**ПАЭЗІЯ 90-га, як і ўся сённяшняя беларуская паэзія, — з'ява шматтэмная, шматвобразная, шматаблічная. Таму запынім наш позірк на яе вузлавых і вызначальных тэмах і вобразах, паспрабуем убачыць светаасэнсавальныя каардынаты, пэўныя набыткі і недахопы.**

**Згадаем, што апошняя квадра для беларускай паэзіі пачыналася ў гады ўсеагульнага грамадскага спакою і цішы, у пару росквіту кан'юнктуры і фальшу. Ды канец 70-х, як і застойныя 80-я гады, не сталі ў паэзіі абсалютна бясплоднымі і страчанымі. Бо ўсё ж знаходзілася ў нашых таленавітых паэтаў мужнасць пісаць і па законах сумленнага мастацтва, пазбягаць ідэалагічных лозунгаў і штампаў, дзяжурнай тэматыкі, спекулятыўнай вобразатворчасці Да канца застаўся гранічна праўдзівым і шчырым з чытачом А. Бачыла, у рэчышчы філасофска-медытатыўнай лірыкі шукаў глыбіннае слова пра жыццё і чалавека А. Разанаў, па праву «балючай памяці», з верай у свой спавядальны сказ перад будучыняй жыў і працаваў С. Грахоўскі. Нават у неспрыяльных грамадскіх варунках былі тыя крыніцы і астраўкі паэзіі, да якіх і сёння прыцягвае незамутнёнасцю, чысцінёй паэтычнага слова. Перш за ўсё, я маю на ўвазе паэзію М. Танка, П. Панчанкі, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, якія насуперак усепаглынальнай плыні ідэалізацыі і хлусні намагаліся рабіць у рэчышчы паэзіі рэльефныя выступы. Хоць даніну застойным ідэалагічным канонам аддалі гэтыя і іншыя аўтары. «Ідэалогія-навала вісела вечна над душой...» — шчыра прызнаецца В. Жуковіч, асэнсоўваючы свой уласны творчы лёс. Маральная споведзь нараджае сумленнае слова:**

**Нікога я не вінавачу,**
**ні перад кім — тым больш —**
**не плачу,**
**а толькі каюся даўно.**

ГОД МІНУЛЫ — адметка пяцігадовага шляху паэзіі пад зоркай Адраджэння, пад знакам грамадскіх перамен. Але шлях гэты мае і другі пачатак, іншы адлік часу — чарнобыльскі. У леташніх паэтычных кнігах, публікацыях у пэўнай ступені якраз і знайшлі адбітак і мастацкае асэнсаванне ўсе тыя тэмы, праблемы, ідэі, матывы, вобразы, настроі, якімі паэзія жыве і дыхае з самага пачатку дэмакратычнай адбудовы жыцця і грамадства, а калі ўсё ж такі вызначаць дакладней, то з часу чарнобыльскай трагедыі, якая красавіцкім днём 1986 года смяротна зраніла нашу зямлю, асудзіла народ на экалагічнае ўдушэнне і смерць.

Будучыня беларуса асвечана атрутным святлом Чарнобыля, таму сённяшні дзень нашай паэзіі пазначаны ўзрастаннем трагізму і балючасці ў адчуванні жыцця, прыроды, часу. Думаецца, і паэтычны небасхіл наступнага стагоддзя будзе захмараны аблокамі чарнобыльскага смутку і гора. Усе мы добра ведаем пра сумныя прароцтвы нашаму народу на пачатку веку XXI.

Чарнобыльская тэма — скразная ў паэзіі мінулага года. Гора народа, пакуты і боль чалавека на атручанай зямлі — лейтматыў больш чым трыццаці вершаў, змешчаных у «Полымі». Моцную трагедыйную напружанасць радка мае паэма Я. Сіпакова «Одзіум». Бяда на зямлі бацькаўшчыны разгортваецца ў творы ва ўсёй эпічна-драматычнай шырыні, экалагічнай катастрафічнасці. Вобразы Катаклізму, Апакаліпсісу, Катастрофы — сімвалы зрынутых на зямлю жорсткіх сіл, несправядлівай д'ябальскай кары. Малітоўны голас паэта звернуты да Усявышняга з верай у заступніцтва, у паратунак народа Беларусі — вечнага цярплівага пакутніка. «Ойча наш...», «Божа наш літасцівы...» — словы звароту, якія паэт прамаўляе з вялікай душэўнай пакутай.

За паўсотню вершаў пра Чарнобыль летась змешчана на старонках іншых рэспубліканскіх выданняў, у тым ліку больш за дваццаць на старонках «ЛіМа». Добра гэта ці блага? Вядома, забараніць паэту пісаць на тую ці іншую тэму ніхто не мае права. Галоўнае, каб радок яго прагучаў па-мастацку важка, псіхалагічна глыбока. У кожнага паэта — свая вышыня паэтычнага дару, і таму, відаць, ён не павінен апускаць планку мастацкасці ніжэй сваіх творчых мажлівасцей і патэнцый. Любая тэматыка, праблема, вобраз знойдуць індывідуальна-непаўторнае ўвасабленне толькі тады, калі паэт уласным зрокам і сэрцам убачыў, перажыў, асэнсаваў свет і жыццё ва ўзаемадачыненнях з чалавечым «я». Здаецца, гэта аксіёма. Таму, паўтаруся, калі скажу, што паэту як вольнаму воля: хочаш абжывай сферу сацыяльную, палітычную, а не — дык замыкайся на коле вечных праблем і тэм. І ў першым, і ў другім выпадку ідэйна-мастацкі ўзровень радка з'яўляецца вызначальным крытэрыем пры крытычнай ацэнцы твора. Бо аднолькава нецікава чытаць шэрыя, сузіральна-павярхоўныя вершы як пра экалогію, перабудову, так і пра ідэю вечнага Бога альбо тую інтымную лірыку, якая перапоўнена сентыментальнымі, збітымі «охамі» і «ахамі». Напісаць па-мастацку праўдзіва, ярка, кранальна — вось чаго патрабуе ад паэта любая тэма: ці то будзе яна надзённай, сацыяльнай, ці то вечнай, экзістэнцыяльнай. Таму нельга пагадзіцца з крытыкам А. Бадаком, які ў рэцэнзіі на зборнік В. Шніпа («ЛіМ», 1990, 10 жн.) выказаў наступную думку: «Пра што зараз менш за ўсё хочацца чытаць у паэтаў? Пра занядбаную мову і Чарнобыль, пра перабудову і яе ворагаў» Але колькі год назад А. Бадак на старонках «ЛіМа» наадварот наракаў, што паэты мала пішуць пра перабудову і адстаюць ад мастацкага асэнсавання часу і гісторыі. Адкуль узнікла такая палярнасць у меркаваннях маладога, трэба сказаць, даволі праніклівага крытыка? Відавочна, гэта дае пра сябе знаць стары і знаёмы рэцыдыў: павучаць пра што пісаць. Наша паэзія мае ўзоры рознага высокага кшталту: радкі грамадзянскія, інтымныя, палітычныя, сатырычныя, за якімі стаяць імёны П. Панчанкі, Я. Янішчыц, Р. Семашкевіча, У. Лісіцына, К. Крапівы ды Ведзьмака Лысагорскага... Сапраўдны абавязак крытыкі, на мой погляд, даваць ацэнку напісанаму, знаходзіць адказ на пытанні: як напісаны твор? якая яго вартасць у сучаснай літаратуры? куды рухаецца паэзія? якое месца творцы ці нейкай з'явы, плыні ў літаратурным працэсе?

З гэтых развагі натуральна вынікае запытанне: ці ўсё, што летась з'явілася на старонках друку пра чарнобыльскую бяду, прагучала самавіта, важка, ці задавальняе ідэйна-эстэтычнай якасцю і спеласцю друкаванае слова паэтаў? Зразумела, не ўсё радуе і імпануе, хоць густ — таксама з'ява суб'ектыўная. Але не хацелася б памыліцца ў некаторых назіраннях. Ды найперш пра тое, што запомнілася як прыклад удумлівай, глыбокай душэўнай працы — верш М. Танка «Асцерагайцеся» з яго радкамі, прамоўленымі нібы ад імя ўсіх беларускіх паэтаў: «У нашых песнях — небяспечны стронцый», вершы У. Някляева, А. Пісьмянкова, А. Лойкі, В. Зуёнка, Я. Мальчэўскай, У. Верамейчыка, паэма А. Хатэнкі «Здзічэлае рэха вясны» — у «ЛіМе»; творы А. Вялюгіна, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, В. Гардзея, М. Мятліцкага, А. Канапелькі — у «Полымі», Г. Булыкі — у «Беларусі» і інш. Чарнобыль нясе народу вялікія духоўныя страты, аб чым са скрушнасцю гаворыць у вершы «Шэрань» А. Вялюгін: «На сэрцы дзве чарнеюць зоны: надзей і песень а д с я л е н н е, ад хат і мовы а д ч у ж э н н е». «Дождж пайшоў. Ці смерць, ці бласлаўленне Кроплі срэбнавокія нясуць?» — на такой запытальнай ноце заканчваецца верш Л. Рублеўскай «Па шляху продкаў». «Продкаў шлях» і шлях чарнобыльскі ў творы перакрыжоўваюцца ў сваёй існасці, выяўляючы перад намі ўвесь драматызм быцця нацыі, бо беларусам, іх адвечнаму шляху пагражае смерць і фізічная, і духоўная. Хіба можа маўчаць паэт, калі народ пакутуе, а роднай зямлі і будучыні чалавека пагражае небыццё? Вядома, пустазвонствам, крыкам таксама гору і бядзе не дапаможаш. Але ўнутрана асэнсаванае, шчымліва-прачулае слова заўсёды было патрэбна чытачу.

У друку мне ўжо прыходзілася крытычна выказвацца пра мастацкія вартасці асобных вершаў пра Чарнобыль, у якіх прысутнічае гучная рыторыка, легкаважнасць інтанацый. Асабліва непакоіць адсутнасць глыбіні асэнсавання трагедыі. Прыкладам тут можа быць верш М. Дуксы «Пасланне Хірасімцам». Твор гэты, як думаецца, праходны ў яго творчасці. «Прыміце боль наш, як далёкі дар...» — у гэтых радках, як і ў самой форме верша-паслання, ёсць нейкая надуманасць, зададзенасць, а таму выяўляецца і павярхоўнасць зместу, у якім няма месца ні болю, ні пакутам:

**Яднае нас**
**амаль агульны лёс,**
**ён кінуў нас**
**на атамныя шалі.**
**Вам янкі бомбу**
**скінулі з нябёс,**
**а ў нас свае**
**ў дзень ясны ўзарвалі...**

«Амаль агульны лёс» — нейкае вельмі ўжо прыблізнае і каструбаватае выказванне, якое так і не разгарнулася ў глыбокую думку-пачуццё.

У. Мазго ў вершы «Заложнікі» рыфмаванай мовай пераказаў тую праўду-ісціну, якая ўжо зразумелая нам — мы ўсе «заложнікі бяды». Вершу не стае кранальнай выяўленчай выразнасці. «Вада той хойніцкай крыніцы халоднаю развагаю бруіцца», — завельмі туманны і бязважкі вобраз. У такім павярхоўным апавядальніцтве ёсць небяспека спекуляцыі на балявой тэме.

Думаецца, што ў нашы паслячарнобыльскія дні няварта ставіць збітыя, агульнавядомыя пытанні, калі яны і так ужо пастаўлены і жыццём, і літаратурай. Таму пяцірадкоўе У. Бабкова ўспрымаецца як шмат разоў паўторанае пытанне, хаця ў 1986 ці 1987 годзе яно, бясспрэчна, мела б іншую сілу гучання:

**Атручаныя яблыні шумяць:**
**— З кага спытаць?**
**У Прыпяці смяртэльная вада.**
**— Скажыце, па чыёй віне**
**Бяда?**

Дваістае ўражанне пакідаюць вершы І. Карэнды ў «Полымі» (1990, № 10) «Педагагічны роздум» і «Чарнобыльская элегія». Нягледзячы на тое, што паэт за гэтыя творы ўдастоіўся прэміі рэдкалегіі часопіса, мушу выказаць і сваё меркаванне, хоць, можа, яно і небясспрэчнае.

Мажліва, гэтыя вершы пісаліся аўтарам з самымі шчырымі пачуццямі, але што ў іх бракуе паэзіі — факт відавочны. Верш «Чарнобыльская элегія» — узор павярхоўнай апісальнасці; знаёмы рух думкі, знаёмыя вобразы: бярозы з атрутным сокам, «і грыбы, і ягады ў лясах», «ціха на падворках»... Вось, для прыкладу, ранейшы па часе верш М. Мятліцкага «У бабчыным лесе з Іванам Пташнікавым»: у ім сустракаем атрутны «бярозавы сок», пустое жытло, «цішу зямлі»... Прынамсі сказаць, што і М. Мятліцкі, кніга якога «Шлях чалавечы» выклікае ў мяне шаноўнае стаўленне, у некаторых вершах зрэдку пачынае паўтарацца. У паэтычнай нізцы, змешчанай часопісам «Маладосць», сустракаюцца вобразы і словазлучэнні, ужытыя ўжо не адзін раз: «азмрочны шлях», «айчынны боль», «шлях зямны», «раз'ятраны свет» і інш. Увогуле, чытаючы чарговы верш некаторых нашых паэтаў пра Чарнобыль, баішся зноў спатыкнуцца на вобразы-блізняты, напрыклад, на той зацяганы збіральны вобраз чарнобыльскіх грыбоў і ягад. Па-ранейшаму надараюцца і радкі з гучнай, адцягненай рыторыкай. У вершы С. Крыштаповіча «Малітва» пранікнёную, прачула-малітоўную інтанацыю замяняюць рытарызм і заклікальныя лозунгі:

**Мы, людзі краіны Белых**
**Буслоў,**
**Звяртаемся да Вас,**
**Жыхароў планеты.**
**Зліць волю кожнага сэрца ў**
**адзіны**
**Бязмежны паток дабра!**
**Калі кожны зробіць крок да**
**Сонца — Мы пераможам!**

(«ЛіМ», 1990, 13.07)

Падагульняючы гаворку пра адлюстраванне ў паэзіі чарнобыльскай бяды, хацеў бы падкрэсліць, што большасць твораў пранізваюць трагедыйныя матывы, настроі смяротнай безвыходнасці: «Вунь лёс вядзе Смерць людскому роду. А народ маўчком ідзе Да труны, да зводу» (М. Янчанка. Верш «Бэры») і інш. Але, трэба сказаць, што ў вершах некаторых паэтаў, асабліва рамантычнага светаўспрымання, поруч з журботнай настраёвасцю ў дні, калі «хата поўна чарнобыльскім ліхам», не губляецца ўсё ж аптымістычная надзея, вера ў жыццё, у няскончанасць шчасця ў родным краі: «І ўсё ж падай, семя, на маю зняможаную зямлю І прарастай. І спялі такую патрэбную нам зараз надзею. Бо, калі ёсць бяда, трэба, каб была і надзея» (Я. Сіпакоў).

ДАВОЛІ АДЧУВАЛЬНЫМ і значным у паэзіі 90-га быў уздым нацыянальнага, патрыятычнага пафасу, які знайшоў глыбокае выяўленне ў адпаведным вобразна-тэматычным дыяпазоне. Пашырэнне нацыянальнай тэматыкі і праблематыкі ідзе як вынік сацыяльнага, духоўнага абуджэння і ўваскрэсення пасля перыяду шматгадовага заняпаду грамадскай і нацыянальнай свядомасці. У творчасць многіх паэтаў вельмі трывала ўвайшлі матывы адраджэння нацыянальнай і гуманістычнай сутнасці чалавека і народа, матывы адбудовы нашай гістарычнай памяці і адвечнага духоўна-экалагічнага Храма, а таксама вобразы маральных, духоўных апосталаў нашай нацыі — Ф. Скарыны, Ф. Багушэвіча і інш.

Занядбанне роднай культуры, заняпад нацыянальнай памяці, абарона роднай мовы, сацыяльнае і духоўнае ўваскрэсенне народа, абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці — вось далёка не поўны тэматычна-праблемны абсяг сённяшняй паэзіі Н. Гілевіча, Д. Бічэль-Загнетавай, С. Панізніка, М. Арочкі, В. Жуковіча, М. Маляўкі, В. Аколавай, маладзейшых паэтаў — А. Сыса, С. Сокалава-Воюша, В. Куртаніч, Л. Рублеўскай, М. Скоблы і інш. У нашы дні, калі «рэкі спрошчаны. Душы спрошчаны» (Л. Паўлікава), паэты імкнуцца да эмацыянальнай дзейснасці слова, шырока звяртаюцца да прамоўніцкіх інтанацый, да мовы публіцыстыкі. Надзённасць паэтычнага радка ўспрымаецца імі як адстойванне і змаганне за сваё нацыянальнае «я», за права жыць маральнай і агульналюдскай годнасцю.

Непасрэднасць лірычна-грамадзянскіх перажыванняў і дум пра родны край, народ і яго нацыянальную будучыню поўніць многія вершы Д. Бічэль-Загнетавай. Яна, як і многія сённяшнія паэты, праяўляе актыўнае эмацыянальнае самавыяўленне, імкнецца да сацыяльнай і псіхалагічна-напружанай завостранасці слова: «Абуджайся, народзе мужны, выходзь з-пад забытых стрэх!», «На званіцах звоніць наш час: час нарадзіцца або памерці...» (верш «Малітва часу»). У лепшых творах паэтэсы адраджэнцкага кшталту радок асвечаны адкрытым лірычным хваляваннем: мы добра адчуваем яе нацыянальна-патрыятычныя настроі, палкую збуджальную энергію верша, душэўнае тамленне, успрыманне грамадсказначнага як свайго асабістага. Паэтэса раскрывае перад намі шлях да самаахвярнага патрыятызму, працы і змагання дзеля будучыні. Яна, як і некалі Купала, Цётка, востра адчувае неабходнасць будзіцельскага, грамадзянскага гарэння паэзіі, таму звяртаецца да страсных, прачулых інтанацый, скіраваных да людской свядомасці:

**Шчэ манкуртаў да халеры,**
**Шчэ няма ні ў кога веры,**
**Спяць ізгоі, інсургенты.**
**Шчэ далёка да відна...**

(«Але ўжо»)

«Я вольную волю навек выбіраю сабе, і нашчадкам, і роднаму краю» — так выяўляецца грамадзянскае сцверджанне характару ў паэзіі А. Вольскага. Унутраным роздумам і драматызмам прасякнута ўспрыманне нацыянальнага быцця ў вершы У. Арлова «Асуджаныя».

На ўздыме хвалюючых лірычных перажыванняў стварае псіхалагічна яркі пейзаж-настрой у вершы «Беларусы» Л. Рублеўская: «Мы — галінкі ялінына, якая стаіць над адхонам...» «Беларусь на крыжы ўваскрэсне ў пакутах за веру...» — прамаўляе Р. Барадулін з надзеяй на працяг духоўнага і фізічнага быцця народа. Нацыянальны ж шлях Беларусі быў надзвычай пакутны, заліты горам і крывёй. Матыў няскоранасці народнага духу пранізвае радкі верша Н. Гілевіча «Мара Скарыны»:

**Думалі: згіне, як статак, нямое**
**Племя пакорнае ў вечным ярме.**
**Колькі іх, мужных, што**
**матчынай мове**
**Шлях пракладалі і змерлі**
**ў турме!**

Леташні год прайшоў пад знакам Скарынавага сонца, і таму вельмі натуральным быў зварот паэтаў да вобраза беларускага асветніка і першадрукара. Ды і сам Скарына выразна паўстаў летась для нас у новай іпастасі — паэтыч-

**Алесь БЕЛЬСКІ**

Артыкул падрыхтаваны на аснове даклада, зробленага на сумесным пасяджэнні секцый паэзіі і крытыкі СП Беларусі.

сацць больш вобразна (хаця даследчык у яго заўсёды спалучаўся з белетрыстам), мэтанакіраваней і патрыятычней. Канкрэтны аналіз усё часцей саступае месца сінтэзу.

Азіраючы ўсё тое, што зроблена Г. Кісялёвым за трыццаць з нечым год яго працы, найперш адзначаеш яго вернасць свайму перыяду, сваёй дзялянцы — XIX стагоддзю. Праўда, былі і адступленні — зборнікі матэрыялаў пра Янку Купалу і Якуба Коласа, але яны толькі пацвярджаюць правіла. Асноўныя кнігі Г. Кісялёва — «Сейбіты вечнага», «З думай пра Беларусь», «Героі і музы», «Загадка беларускай «Энеіды», «Пошукі імя», зборнік «Пачынальнікі» — прысвечаны стагоддзю дзевятнаццатаму. У іх па-новаму накрэслены біяграфіі Кастуся Каліноўскага і Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, дзесяткаў асоб з іх акружэння. А з гэтых асабістых біяграфій паўстае біяграфія цэлага стагоддзя, пярэдадня нашага часу.

Асаблівыя заслугі Г. Кісялёва ў высвятленні аўтарства, часу і месца напісання, гістарычных рэаліяў і мастацкіх асаблівасцяў усё яшчэ загадкавых паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Не ведаю, як каго, але мяне ён пераканаў, што першую з іх напісаў Вікенцій Равінскі, а другую мог напісаць Канстанцін Вераніцын. Чакаю толькі, каб гэтае суб'ектыўнае перакананне было пацверджана аб'ектыўнымі вывадамі гродзенскіх праграмістаў, якія з імпэтам узяліся за лінгва-матэматычнае высвятленне аўтарства абедзвюх паэм.

У сваіх даследаваннях Г. Кісялёў ідзе да абагульненняў ад канкрэтных фактаў, часцей за ўсё ўзятых з невядомых раней крыніц. І ў гэтым — яго сіла, яго адметнасць. Калі выкарыстаць вобразную назву яго першай кніжкі, ён нагадвае селяніна-рупліўца, што сее зерне. Але зерне гэта не з мінулагодняга ўмалоту. Яно па зярнятку сабрана ў архіўных засеках і, хоць старое, аказалася здольным прарастаць, узыходзіць, каласіцца.

Цяпер нястомны сейбіт уступіў у пару свайго жніва. За кніжкі «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» і «Разыскивается классик...» ён толькі што ўдастоены Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа, таго самага Якуба Коласа, у акадэмічным кабінеце якога ён цяпер сядзіць дбайным апекуном-захавальнікам паводле грамадскага даручэння Інстытута літаратуры. Як старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута Г. Кісялёў нядаўна закончыў і здаў у выдавецтва ці не галоўную кнігу свайго жыцця — «Ад Чачота да Багушэвіча», дзе падагуліў свае крыніцазнаўчыя росшукі па беларускай літаратуры XIX стагоддзя — за шэсць апошніх год і за ўсё жыццё. І жніву гэтаму, верыцца, будзе доўгі працяг. Калісьці Г. Кісялёў збіраўся разам з У. Караткевічам напісаць пра Кастуся Каліноўскага для серыі «Жыццё выдатных людзей». Дзякуючы Алегу Лойку ёсць у гэтай серыі сёння кнігі пра Купалу і Скарыну. Але няма Каліноўскага, няма Багушэвіча. І не бачыцца тут іншы аўтар, як сёняшні юбіляр. Гады шчодра адарылі яго даследчыцкім і творчым вопытам, загартавалі дзеля далейшай працы.

Адам **МАЛЬДЗІС**.

---

пэўная ідэалагічная зададзенасць, якая доўгія гады скоўвала пісьменніцкую волю наогул. Шмат праблем пастаўлена ў рамане. Праз тры пакаленні сям'і Сухавеяў аўтар паказвае побыт вёскі, маральныя, духоўныя якасці яе прадстаўнікоў. Але больш за ўсё пісьменніка хвалюе маладое пакаленне, якое адарвалася ад вясковых каранёў і да горада, яго сапраўднай культуры не дайшло.

У творах П. Місько незвычайна ўнутрана прыгожымі паўстаюць вобразы многіх жанчын-працаўніц, самаахвярных патрыётак, партызаніўшых, ваяваўшых, добрых, цярплівых, цнатлівых сучасніц. Тут пісьменнік прытрымліваецца плённай традыцыі беларускай літаратуры — пакланення жанчыне — каханай, клапатлівай маці, мудрай бабулі, што асабліва важна сёння — менавіта так бачыць, уяўляць жанчыну, спачуваць яе нялёгкай долі, вылучаць нязменную яе ролю захавальніцы сям'і, у выхаванні дзяцей. І нездарма П. Місько, пісьменнік-гуманіст, шмат піша для дзяцей і пра дзяцей. Аўтабіяграфічныя моманты з уласнага ваеннага дзяцінства адчувальныя ў аповесці «Чырвонае неба», лёс юнага мастака-падпольшчыка кранае сваім трагізмам у аповесці «Калянае лісце», дзецям з невялікай прынёманскай вёскі прысвячае аўтар аповесць «Зямля ў нас такая». А колькі пазнавальнага раскрывае аўтар праз захапляючыя эпізоды ў аповесцях «Грот Афаліны», «Прыгоды Бульбобаў», колькі дабрыні, гумару, разумення дзяцей у «Навасёлах»... Творы гэтыя заклікаюць дарослых быць абачлівымі, шчырымі, справядлівымі да дзяцей, цярпліва і з розумам дапамагаць ім на пачатку нялёгкай дарогі ў вялікі, жорсткі свет.

І яшчэ адзін штрых прываблівае чытача ў шматграннай пісьменніцкай палітры П. Місько, хоць па суроваму вонкаваму яго выгляду цяжка здагадацца, што ён валодае тонкім пачуццём гумару, вострым сатырычным пяром («Дзівак-чалавек», «Чэрці ў коміне», «Вясельны марафон»). На жаль, гэтага пачуцця гумару не стае яго раманам, аповесцям, аўтар як бы размяжоўвае сур'ёзную прозу ад гумарыстычных і сатырычных апавяданняў, фельетонаў, літаратурных пародый, дзе даследуе «бабізм-ягізм у разрэзе».

Крытыкамі прыкмечана, што П. Місько арганічна-традыцыйны пісьменнік у лепшым сэнсе гэтага паняцця. І сапраўды, ёсць нешта глыбінна-сялянскае ў той працаздольнасці, адоранасці, з якой пісьменнік урабляе сваю ніву — беларускую прозу, паслядоўна ідучы ад нарыса, апавядання да буйных празаічных жанраў, адлюстроўваючы дакладным, трапным словам жыццё сваіх герояў, сучаснага грамадства, якое ён добра разумее, ведае. Шмат ім зроблена на гэтай ніве, нямала ўпісана ў беларускую літаратуру цікавых старонак, якія застануцца людзям. Аднак пісьменніцкія шляхі П. Місько працягваюцца. Яму ёсць што сказаць, ёсць чым падзяліцца з свайго багатага духоўнага вопыту з нашымі сучаснікамі.

Лідзія **САВІК**.

---

**Шорах маіх крокаў**
**у пустэльні хаты —**
**уцівіліся ўспамінамі,**
**адклікаюцца**
**моўкным скрыпам жалю.**

**Дзе вы цяпер!**
**Дзесь далёка чуцен**
**старэчы кашаль —**
**каплі цяжкай долі.**
**Дзе вы! Дзе вы цяпер!**

1948 г.

●

**У краіну далёкую**
**адпраўляюся.**

**З мною думкі:**
**— Што будзе! — адплываюць.**
**Буду там сабе недаўнасцяй,**
**што ў ростаннях жывуць.**

**Дарогі пядзь апошняя**
**з Айчыны памятаецца.**
**Чужацкія абшары дзівяцца**
**прышэльцу ад чужых.**

**... зусім не каюцца,**
**зусім не пазнаюць:**
**далёкі ты,**
**ці блізкі да сваіх,**
**ці ім.**

1949 г.

## Успамін

**Я маленькую браў цябе на рукі.**
**Уздымаў пад неба**
**на вышыню рук сваіх.**

**Твае вочы**
**сонцам былі мне,**
**і радасць галосная,**
**ад цябе маленькай,**
**былі небам**
**над табой і мной.**

●

**Зоры рэдкія іскрацца, як раса,**
**і вецер лёгкі —**
**дыханне дзіцяці.**

**Сад губляецца ў пацёмках,**
**і крокі —**
**гамонка немаўляці.**

**Калі б месяц засвяціў раней,**
**і вецер кволы**
**сцішыў шамценне лісця,**

**я, пэўна,**
**зямлі глушэц,**
**здалёку,**
**падслухаў Бога прыйсця.**

---

**З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ**

**Анатоль ДЭБІШ**

# *КУРАПАТЫ-37*

### I

## Аблога

**Ноч халодная... Крыкі і крокі.**
**Хтось нябачны стаіць за вакном,**
**Нехта змрочны, чужы і высокі**
**Ноч, да рання, вартуе мой дом.**

**У пакоі — адзін я... Лагодна**
**Ззяе ветах на небе... Маўчу...**
**І прамоклы, худы і галодны**
**Безупынку за госцем сачу.**

**Часу хвілі — бы вострыя спіцы.**
**Жахам ноч маё поўніць жыццё,**
**І нябачная воку іглiца**
**Упіваецца ў сэрца маё.**

### II

## Уцёкі

**Я, знямоглы, паўзу праз туман**
**Да святочнай Айчыннай дубровы.**
**І струменіцца кроў з маіх ран**
**На імхі і на дол вечаровы.**

**Жаўрукі не пяюць нада мной.**
**Толькі мне паміраць яшчэ рана.**
**Я стаміўся жыць праўдай чужой,**
**Я ўцёкі раблю ад тырана.**

**Ды бліжэй да мяне ўсё тыран,**
**Чую подых яго нада мною.**
**Я, знямоглы, паўзу праз туман...**
**Дзень гарачай сплывае крывёю.**

### III

## За кратамі

**Ноч... Цямрэча... Краты.**
**Вартаўнік блукае**
**І крычу я кату**
**Мужнае «кахаю».**

**Свежыя магілы.**
**Позіркі адчаю.**
**Не стае мне сілы,**
**Ды шапчу «кахаю».**

**Стрэлы... Свет распусны...**
**Забыццё... Канаю.**
**Толькі шэпчуць вусны**
**Вечнае «кахаю».**

### IV

## Пакаранне

**Смерці выбраннік, ляжу я на пласе**
**самотны,**
**Молячы Бога, каб даў мне цярпенне**
**і сілы**
**Цвёрда ступіць у хаўрусную цемру**
**магілы,**
**З годнасцю час свой сустрэць**
**і ўславіць смяротны.**

**Дзень адплываў, дзень крывёй дагараў**
**незваротны.**

**Чуліся гукі трубы, пахавальныя спевы**
**Хору дзяўчат маладых... Вецер прагна**
**разносіў**
**Спеў іх дзівосны па вулках... І гордая**
**восень —**
**Вецце зрывала, у злосці ламаючы дрэвы.**

**Чуліся крыкі пракляцця, надзеі і гневу.**

**Нехта даў крыж цалаваць мне... За**
**маці і веру...**
**Я не адмовіўся... Кроў на зямлі**
**запяклася...**
**Не, не мая, а чужая. Уявіў я сякеру,**
**Што над маёй галавой ў гэты міг**
**узнялася.**

**Я не адзін, нас мільёны ляжала на пласе.**

**Млосна зрабілася. Ногі мае задрыжалі.**
**«Гэта — усё...» — У галаве мітусіліся**
**мроі...**
**З жаху прачнуўся я, кінуўшы коўдру**
**і шалі**
**Прэч ад сябе... Гэта ж я ахвярую сабою.**

**Светла і ціха было ў халодным пакоі.**

**Я падышоў да акна... На двары была**
**восень.**
**Дзеці у парку ў хованкі дружна**
**гулялі.**
**Дзед мой прыпомніўся мне...**
**каляндарны лісток... 38 —**
**Год ракавы... Мы вяртання так доўга**
**чакалі.**

**У трыццаць восьмым—яго расстралялі.**

. . . . . . . . . . . . .

**Смерці выбраннік, ляжаў на смяротнай**
**я шалі.**

### V

## Курапаты

**У нетрах, між карэнняў траў і дрэў**
**Застыў дзявочы смех, жаночы спеў.**
**Вачэй пустых глядзяць на свет**
**вачніцы,**
**Ды ім не ўбачыць зоркі-вечарніцы.**
**І не наведаць больш свой роднай кут —**
**Халодны жвір і ноч ім домам будуць...**
**О, ганьба вам, хто учыняў тут суд —**
**Няхай вас пакарае Бог і Людзі!..**

### VI

## Вяртанне

**Тупат ног і шэпт літанняў...**
**Спалатнелы бачу твар.**
**То — вяртаюцца з выгнання**
**Душы мёртвыя ахвяр.**

**Рукі скуты ланцугамі,**
**Джаляць ногі кайданы.**
**Спапахнелымі рукамі**
**Сонца кратаюць яны.**

**І гучыць у наваколлі**
**Іхні шэпт, нібы набат:**
**«Дайце сонца! Дайце волі!**
**Нам абрыдзеў бразгат крат!..»**

### VII

## Суд

**...І калі раскапаюць травою зарослыя**
**ямы —**
**Выйдуць змрочныя здані да сонца**
**з халоднай зямлі:**
**Загалосяць яны, зазвіняць на ўвесь**
**свет кайданамі**
**І папросяць у Бога, каб катаў на суд**
**прывялі.**

**Сотні, тысячы сотняў, мільёны нявінных**
**ахвяраў,**
**Што здабычаю сталі зняваг і дзікай**
**маны...**
**І збялеюць у катаў і ў служак іх**
**сытыя твары,**
**І папросяць збавення і літасці ў Бога**
**яны.**

**Ды адкажа ім Бог: «...Не суддзя вам...**
**Вось вашыя суддзі.**
**Ім — ваш лёс вырашаць і над вамі**
**чыніць ім прысуд...»**
**Нехта крыкне з натоўпу: «Даруйце ім,**
**добрыя людзі!..»**
**...І даруе, усё ім даруе падмануты люд.**

г. Брэст.



Фота А. ШАБЛЮКА.

# ПРА ВЫНІКІ І ПЕРСПЕКТЫВЫ

## З калегіі Міністэрства культуры БССР

Адметнасць гэтага пасяджэння — удзел у ім Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Вячаслава Кебіча. Ён не столькі выслухваў пажаданні, прапановы і прэтэнзіі прысутных, колькі даваў дакладныя тлумачэнні і добрыя парады, напрыклад, як найлепш скарыстаць зробленую мастацкімі калектывамі валюту, хутчэй паразумецца са спонсарамі на прадпрыемствах ці пабудаваць дом для творчых работнікаў. Відавочна, што беларускі ўрад, павялічыўшы працэнт бюджэтных адлічэнняў на культуру (з 0,87% да 1,65%), усведамляе: павышэнне цэн, неспрыяльная падатковая палітыка і да т. п. могуць звесці на нішто гэтыя дадатковыя асігнаванні. Таму неабходнасць абароны культуры на дзяржаўным узроўні па-ранейшаму актуальная. Памянуў Вячаслаў Францавіч і пра тое, што беларускі ўрад мае на мэце яшчэ павысіць зарплаты работнікам культуры, і пра тое, што плануюцца датацыі для тэатральнага часопіса і газеты Міністэрства культуры...

Культура патрабуе новых і новых укладанняў, — гучала на калегіі. «Ніводнага года не згадаю, калі б грошы, выдаткаваныя дзеля гэтага, былі б спажытыя», — адгукнуўся В. Кебіч. Праўда, дадаў, што у гэтым не вінаватыя творцы, дый цяпер становішча змянілася да лепшага: напрыклад, неспажытыя грошы з адной графы выдаткаў можна смела пераводзіць на якую іншую графу... Замест пакупкі касцюмаў, напрыклад, можна рэстаўраваць тэатр ці будаваць інстытут...

— Гадоў пятнаццаць мы стукаліся ва ўсе дзверы, каб распачаць гэтае будаўніцтва, — узяў слова рэктар БДТМІ В. Шаранговіч. — І нарэшце пастанова аб будаўніцтве падпісана, за што хацеў бы шчыра падзякаваць новаму ўраду.

Распрацавана вялікая праграма развіцця БДТМІ на перыяд да 1995 года. Лагічным вынікам гэтай праграмы з'явіцца рэфармаванне тэатральна-мастацкага інстытута ў Акадэмію мастацтваў. А перадусім на базе кафедры «Акцёрскае майстэрства і рэжысура» будуць створаны чатыры: майстэрства акцёра, рэжысуры, сцэнічнай мовы, сцэнічнай пластыкі; арганізуецца кафедра «Мастацкае праектаванне вырабаў тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці»; на ўсіх аддзяленнях уводзіцца курс «Беларускі фальклор». Паступова мяркуецца перайсці на пяцідзённы навучальны тыдзень, зрабіўшы суботу творчым днём, стварыць вучэбны відэацэнтр, канчаткова перавесці БДТМІ на беларускую мову навучання.

Намаганнямі органаў культуры і тэатральнай грамадскасці ў 1990 годзе распачата падрыхтоўка рэжысёраў тэатраў лялек і набраны курс па спецыялізацыі «акцёр драматычнага тэатра — акцёр чытальнік». Створаны беларускія эксперыментальныя тэатры ў Мазыры і Слоніме, Мінскі і Віцебскі абласныя беларускія тэатры лялек, рабочая група будучага Дзяржаўнага музея гісторыя тэатральнага і музычнага мастацтва Беларусі. У снежні 1990 г. Савет Міністраў БССР прыняў рашэнне аб адкрыцці ў Мінску Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі і аб устанаўленні імянных і спецыяльных прэмій за поспехі ў справе развіцця і прапаганды беларускага сучаснага тэатра.

Прагучалі на пасяджэнні калегіі і такія факты: летась нашы тэатральна-відовішчныя прадпрыемствы працавалі ў новых умовах гаспадарання. «Нягледзячы на тое, — сведчыць міністэрская даведка, — што колькасць мерапрыемстваў у параўнанні з 1989 годам знізілася.., колькасць абслужанага гледача ўзрасла.., на 2,7 мільёна рублёў павялічылася сума збораў». Глядач вяртаецца ў тэатр?

Слушным і своечасовым было выступленне кінарэжысёра В. Турава. Усе нашыя намаганні па адраджэнні і адначасна можа сапсаваць... кінапракат, сказаў ён. Чаму? А таму, што ўжо сёння экраны запаланілі амерыканскія баевікі, перакупленыя ў Маскве. Ці ж не ад стрэлаў і гвалту пабеглі гледачы з кіназалаў?

Факт смеху варты: ледзь знайшлі грошы для прыбудовы да Дзяржаўнага мастацкага музея (які мае адну з самых вартых калекцый у краіне), а будаўнікі цягнуць і цягнуць. Тым часам прадпрымальныя кааператары штампуюць вычварныя, па-за межамі мастацтва вырабы. Мабыць, на іхнія прыбыткі ўжо даўно зрабілі б тую прыбудову...

Адзначалася таксама, што дзеячы мастацтва вялікія надзеі ўскладаюць на Закон аб культуры, прыняты на мінулай сесіі ВС БССР у першым чытанні.

**НАШ КАР.**

# «ПРАЗ СВАЮ ХАТУ ЎБАЧЫЦЬ БАЦЬКАВУ»

## Дакументальна-публіцыстычны фільм пра Алеся Гаруна

Дыяменты мастацкай спадчыны Гаруна вяртаюцца ў скарбніцу беларускай духоўнасці. Народ пасля шасці дзесяцігоддзяў маўчання ўшаноўвае сваіго паэта-змагара... Маю на ўвазе перш за ўсё выданне збору твораў Алеся Гаруна і нарыса яго жыцця і творчасці, над якімі два дзесяткі гадоў самаахвярна працаваў навуковец У. Казбярук. Праца гэтая дапамагла пісьменніку Барысу Сачанку і рэжысёру Юрыю Цвяткову рэалізаваць ідэю стварэння дакументальнай кінастужкі пра Алеся Гаруна, пра якую хацелася б выказаць некаторыя меркаванні.

Падзеі ў кінастужцы развіваюцца інверсійна: старажытны Кракаў, Ракавіцкія вайсковыя могілкі, магіла паэта ў далёкай чужыне — цягнік гісторыі, нібы абвяргаючы закон незваротнасці часу, вяртае нас у пачатак XX ст. Аўтары фільма наноў перагортваюць пакручаныя шалёным стагоддзем старонкі беларускага адраджэння, акрэсліваючы месца і ролю, якую адыграў у ім Алесь Гарун. Асоба паэта паўстае перад намі ў кантэксце эпохі, якая вызначыла этапы эвалюцыі яго светапогляду: рэвалюцыя 1905—1907 гг., арышт і сібірская ссылка, нацыянальна-вызваленчы рух і бурлівыя падзеі 1917 года, грамадзянская вайна. Рэтраспекцыю паглыбляюць архіўныя матэрыялы замежнай і савецкай кінахронікі, якія пашчасціла адшукаць Юрыю Цвяткову. На экране перад гледачом унікальныя кадры беларускай гісторыі. Мінск, 1919 год: прыезд Пілсудскага. Гістарычныя мясціны, звязаныя з імёнамі дзеячаў беларускага адраджэння М. Багдановіча, Янкі Купалы, З. Бядулі, Я. Лёсіка, А. Луцкевіча, В. Іваноўскага...

Варта адзначыць, што аўтарам фільма ў пэўнай ступені ўдалося пазбегнуць казённай інфармацыйнасці і празмернага фактаграфізму. Вобраз паэта не хрэстаматыйны, ды цэльны і завершаны.

Адной з асноўных праблем, якую закранаюць аўтары дакументальнай стужкі, з'яўляецца праблема гістарычнага самапазнання. Здольнасць «праз сваю хату ўбачыць бацькаву» (М. Лужанін), на думку аднаго з удзельнікаў фільма, акрэслівае гістарычную перспектыву беларускага народа, яго будучыні, будаваць якую так горача і натхнёна заклікаў Алесь Гарун. Клопатам аб грунтоўным асэнсаванні і практычным асваенні культурна-гістарычнага вопыту прагучала ў фільме шчырае і пранікнёнае слова В. Быкава, які падкрэсліў значымасць духоўнай спадчыны паэта, яе актуальнасць для далейшага развіцця нацыянальнай культуры. Новымі архіўнымі знаходкамі пра А. Гаруна і яго ролю ў заблытанай гісторыі з Беларускай Вайсковай Камісіяй (БВК) падзяліўся даследчык У. Казбярук.

Сюжэтную пабудову фільма вызначае гістарычны ракурс — гісторыя высвечвае духоўную асобу паэта сваім святлом. Разуменне творчай індывідуальнасці А. Гаруна аўтар сцэнарыя Б. Сачанка і рэжысёр Ю. Цвяткоў спрабуюць спалучыць з перспектывай сённяшняга ўспрымання і прачытання творчасці паэта, разгляду яго грамадскай і культурнай дзейнасці ў гады нямецкай акупацыі і белапольскай інтэрвенцыі.

Безумоўна, я буду неаб'ектыўны, калі абыду ўвагай і тыя хібы, якія шмат у чым збядняюць вартасць дакументальнай кінастужкі. Блытаніна ў храналогіі гістарычных падзей, памылкі дыктарскага вымаўлення і асабліва — недакладнасць пададзеных у фільме фактаў пра паэта з сібірскага перыяду яго жыцця. З матэрыялаў судовай справы адназначна вынікае, што А. Прушынскага (А. Гаруна) засудзілі ў ссылку. Такім чынам, у Іркуцкую губерню паэт трапіў як ссыльнапасяленец.

Што да месцазнаходжання магілы паэта, дык, на маю думку, аўтары кінафільма відавочна памыліліся з ягоным вызначэннем. Пра гэта сведчыць і запіс у адпаведным дакуменце, які захоўвае адміністрацыя Ракавіцкіх вайсковых могілак. (Адзін з рэдкіх фотаздымкаў з архіву Г. Гарэцкага, які ў 1926 годзе адведаў магілу паэта і занатаваў для нашчадкаў дакладнае месца пахавання А. Гаруна, з'яўляецца дакументальным пацвярджэннем таго, што магіла ніколі не пераносілася).

Застаюцца нявысветленымі абставіны смерці паэта і пахавання. У фільме робіцца здагадка, што пахавалі яго сваякі, якія на Ракавіцкіх вайсковых могілках мелі свой радавы склеп. Але гэтыя аргументы — ускосныя, як і той, што ў апошнюю хвіліну побач з паэтам магла знаходзіцца сястра Юзэфа.

Шкадую, што ў межах экраннага часу (фільм доўжыцца 20 хвілін) вядомыя і паважаныя пісьменнікі М. Лужанін і Б. Сачанка не назвалі і не паказалі тых месц і вуліц, дзе жыў А. Гарун. А варта было б нагадаць вуліцу Скобелеўскую (сёння Чырвонаармейская), на якой нейкі час асталяваўся паэт, месца яго арышту — вуліцу Шырокую (раён опернага тэатра), Кальварыйскі касцёл, дзе хрысцілі маленькага Алеся, расказаць пра «Беларускую хатку», якая пасля Лютаўскай рэвалюцыі стала цэнтрам нацыянальнага і культурна-вызваленчага руху, дзе месцілася рэдакцыя газеты «Вольная Беларусь» і жылі вядомыя беларускія дзеячы.

Істотна дапоўнілі б і пашырылі змест фільма кадры Аляксандраўскага цэнтрала і перасыльнай турмы, у якой знаходзіўся А. Гарун, краявіды мясцін ссылкі паэта — сёл Крывалукскага, Макараўскага, вёскі Мельнічнай і невялікага сібірскага гарадка Кірэнска. Але, як гэта не сумна, матэрыяльны бок справы па-ранейшаму вызначае маштаб працы ў кінематаграфіі.

Нагадаю і пра тое, як аўтарам фільма давялося прабівацца праз абыякавасць і ваяўнічы нігілізм чыноўнікаў ад культуры.

Але неблагі пачатак ёсць. як ёсць упэўненасць, што праца беларускіх кінематаграфістаў вымагае працягу.

**Юрась ГАРБІНСКІ, аспірант МДПІ.**

# Ізноў спачатку?

## Барыс Луцэнка вярнуўся у Рускі тэатр БССР

СЁННЯ робіцца ўжо маветонам гаварыць пра тэатр: «ён у крызісе». Крызіс — катэгорыя, якая мае дачыненне да любой з'явы нашага жыцця. Але задумаемся на хвіліну над першасным значэннем слова, якое мы звыкла ўжываем для крытычнай ацэнкі. Крызіс — пераход з аднаго стану ў другі, рэзкі пералом у той альбо іншы бок. Крызіс зусім не роўны занападу. І ў гэтым сэнсе Рускі драматычны тэатр БССР імя Максіма Горкага ў крызісе, таму што сёння ён шукае новыя шляхі творчага развіцця.

1991 год пачаўся для Рускага тэатра з прыходу новага мастацкага кіраўніка — Барыса Луцэнкі... Новага? Менавіта гэтым рэжысёрам колькі гадоў таму былі пастаўлены спектаклі, якія прынеслі поспех і прызнанне тэатру — «Макбет», «Трагедыя чалавека», «Трохграшовая опера»...

Трэба сказаць, што Луцэнку ў тэатры чакалі. Чакалі, бо тэатру быў неабходны чалавек, які б ясна і выразна заявіў сваю творчую праграму. Чакалі яшчэ і таму, што заўсёды шанавалі аўтарытэт гэтага таленавітага рэжысёра.

Так, тэатру неабходны лідэр (ці не адзінае гэта месца на зямлі, дзе дэмакратыя супрацьпаказана?). Барыс Луцэнка вярнуўся ў Рускі тэатр з адзіным жаданнем — ставіць спектаклі. Праца — тое апошняе і адзінае, што, насуперак усяму, можа памагчы нам сёння самазахавацца.

Выбар Б. Луцэнкі шмат каго здзівіў — п'еса «Прасцячок з Нечаканых астравоў» Б. Шоу (спектакль будзе называцца — «Прасцячкі Нечаканых астравоў»).

П'еса Б. Шоу невядома ў нас; традыцыйна ж прынята лічыць, што драматургія Б. Шоу занадта разумовая, аналітычная, неэмацыянальная, а таму не вельмі блізкая нашаму тэатру. Можна сказаць, што за знешняй зіхоткай формай, грандыёзна выбудаванай драматургічнай канструкцыяй п'ес Б. Шоу хаваецца магутны эмацыянальны зарад, што чалавечыя страсці бушуюць у яго творах. Сказаць можна ўсё. Давесці — толькі спектаклем.

Сюжэт п'есы незвычайны і ў нейкай ступені падобны да казкі, але казкі страшнаватай, для дарослых.

...Усеагульная паніка, эміграцыя... Людзі бягуць, свет разбураецца... І вось два чалавекі, Прола і Пра, вырашаюць ўратаваць чалавецтва шляхам Яўгенічнага эксперыменту. Сутнасць эксперыменту ў тым, што ўтвараецца сям'я, якая складаецца з шасці чалавек і з'ядноўвае прадстаўнікоў Захаду і Усходу. Паводле задумы аўтара эксперыменту Пролы, у гэтай сям'і павінны нарадзіцца дзеці, у жылах якіх будзе цячы кроў Захаду і Усходу. Такім чынам з'явіцца новая раса людзей, якія будуць ратаваць чалавецтва. Але вялікі Яўгенічны эксперымент церпіць крах...

«Бачанне Страшнага суда»— так вызначае жанр спектакля Б. Луцэнка. спектакля, які павінен стаць больш аб'ёмным за кошт прыўнясення матываў такіх п'ес Б. Шоу, як «Назад, да Мафусаіла», «Ахопленыя страсцю», «Дом, дзе разбіваюцца сэрцы» і іншых. У спектаклі мяркуецца шмат захапляльных сюжэтных ліній. Тут людзей кідаюць пад цягнік, але яны не гінуць, а... ачышчаюцца. Тут свяшчэннік хоча ажаніцца з дзвюма дзяўчынамі адразу. У спектаклі існуе дзіўны персанаж Анёл. І, безумоўна, адзін з прывабных бакоў будучага спектакля — зварот да культуры Усходу, выкарыстанне яе музычных і пластычных элементаў.

Ролю Пролы рэпеціруе Святлана Кузьміна, з якой Луцэнка калісь працаваў у Рускім тэатры, а потым і ў Тэатры-студыі кінаакцёра. У спектаклі будуць заняты артысты Рускага тэатра: Р. Янкоўскі, В. Бандарэнка, Т. Баўкалава, М. Мартыненка, А. Ждановіч, Я. Лявонцьеў, В. Шэлестаў, Я. Цвяткова, В. Гудзіновіч, А. Дудараў, А. Захарэвіч, акцёры ТЮГа А. Суцкавер, А. Перавожкіна і М. Пятроў.

...Ізноў спачатку? — перапытае чытач. Што ж, тэатр шукае. Рэжысёр — таксама...

**Наталля ЗЕМЛЯКОВА, загадчык літаратурнай часткі тэатра.**

# ХОПІЦЬ ЭКСПЕРЫМЕНТАЎ

(Пачатак на стар. 5).

га не адзначыць, што гэтыя ж савецкія рэспублікі рабілі спробу рэалізаваць Дэкларацыю правоў народаў Расіі, якая была зацверджана СНК РСФСР 15.11.1917 і абвяшчала прынцыпы роўнасці і суверэннасці народаў Расіі, іх права на самавызначэнне. Але права на самавызначэнне для многіх народаў так і засталося толькі на паперы. Што ўяўляў сабой саюз згодна дагавору, які быў прыняты за аснову 30 снежня 1922 года на I з'ездзе Саветаў СССР? Перш за ўсё, у гэтым дакуменце СССР дэклараваўся як адзіная саюзная дзяржава, пабудаваная на добраахвотным аб'яднанні чатырох саюзных рэспублік: РСФСР, УССР, БССР і ЗСФСР. Якімі ж правамі надзяляліся саюзныя рэспублікі, як фарміраваліся цэнтральныя органы ўлады? Фармальная ўся заканадаўчая ўлада ў СССР канцэнтравалася ў ЦВК СССР, які ўтвараў яшчэ Прэзідыум ЦВК СССР. Выканаўчая ўлада належала Савету народных камісараў СССР, які складаўся з 10 народных камісарыятаў і падпарадкоўваўся ЦВК СССР. Пры Савеце народных камісараў утвараўся аб'яднаны орган Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (ГПУ) з мэтай устанаўлення рэвалюцыйнай законнасці. Для барацьбы з контррэвалюцыяй пры ЦВК СССР ствараўся Вярхоўны суд з функцыямі судовага кантролю. Падкрэслім: для барацьбы з контррэвалюцыяй, а не для ўстанаўлення законнасці.

Рэальна ўся палітычная ўлада ў СССР ад самага ўтварэння належала ЦК РКП(б) і затым ЦК КПСС. Яшчэ да ўтварэння Саюза ССР РКП(б) займалася стварэннем марыянетачных урадаў, якія захоплівалі ўладу ў нацыянальна-дзяржаўных утварэннях былой Расійскай імперыі. Аб'яднанне савецкіх сацыялістычных рэспублік у адзіную унітарную дзяржаву СССР было ўжо досыць простай справай.

Ні выбараў, ні рэферэндумаў тады не праводзілася. Напрыклад, пры заключэнні Рыжскага дагавора 18 сакавіка 1921 года паміж РСФСР і Польшчай абедзве краіны, нават не пытаючыся думкі Беларускай ССР, узялі ды і падзялілі яе на дзве часткі. Вось такі суверэнітэт мелі савецкія сацыялістычныя рэспублікі на пачатку 20-х гадоў.

Такім чынам, новае дзяржаўнае ўтварэнне (СССР) уяўляла сабой ні што іншае, як рэфармаваную аднаўленую Расійскую імперыю. Тая ж непадзельная канцэнтрацыя ўлады ў Цэнтры. Тая ж русіфікатарская вялікадзяржаўная палітыка, але пад лозунгам зліцця шматлікіх нацый і народнасцей, якія насялялі СССР, у «новую гістарычную супольнасць людзей — савецкі народ». Тое ж падаўленне нацыянальных культур. Тое ж навязванне Цэнтрам нерацыянальных эканамічных сувязей паміж гаспадарчымі суб'ектамі Саюза. Пры гэтым на першае месца ставіўся не разважны сэнс, не аптымізацыя гаспадарчых сувязей, а стварэнне эканамічнай залежнасці аднаго рэгіёна ад другога і ўсіх рэгіёнаў разам ад Цэнтра.

Аднак былі і прынцыповыя адрозненні ў дзяржаўных канструкцыях СССР і Расійскай імперыі. Напрыклад, на змену «первенствующей и господствующей» праваслаўнай царкве прыйшла кіруючая і накіроўваючая камуністычная партыя. Старая рэлігія вынішчалася і ўводзілася новая—марксізм-ленінізм.

Аналізуючы ў гістарычным плане станаўленне і знікненне шматлікіх імперый, можна выдзеліць наступныя характэрныя моманты ў іх жыццёвым цыкле:

— узнікненне імперыі;

— экспансія шляхам агрэсіі, закабаленне і падпарадкаванне заваяваных народаў:

— стварэнне апірышча імперскага рэжыму на далучаных тэрыторыях, ідэалагізацыя звышцэнтралізаванага кіравання, узвядзенне імперскіх амбіцый у ранг дзяржаўнай палітыкі;

— эканамічныя і палітычныя пераўтварэнні, якія звычайна, напачатку служаць ажыўленню альбо замарожванню эканомікі на далучаных тэрыторыях у залежнасці ад узроўню іх эканамічнага развіцця;

— стагнацыя;

— распад.

Жыццёвы цыкл Расійскай імперыі не скончыўся ў 1917 годзе. На працягу апошніх 70 гадоў абноўленая імперыя перажывала этапы эканамічнага і палітычнага пераўтварэнняў, стагнацыі і зараз наблізілася да этапу распаду. У дадзенай сітуацыі Вярхоўны Савет СССР зараз нагадвае больш імперскі сход, які больш думае пра сябе, чым пра лёс рэспублік. Сёння неабходны рашэнні Вярхоўнага Савета СССР, якія б былі адэкватнымі падзеям, імкненням рэспублік да суверэнітэту. Спешка і пераскокванне пры гэтым праз канкрэтныя гістарычныя этапы недапушчальныя. Неабходна прадбачыць ход падзей, умець знаходзіць аптымальныя рашэнні ў той ці іншай сітуацыі і мець сродкі для ажыццяўлення гэтых рашэнняў, гэта значыць, рэальную ўладу. Рэальную ўладу прэзідэнт атрымае толькі тады, калі будзе ўлічваць інтарэсы рэспублік. Пры гэтым неабходна цвёрда ўяўляць сабе, што захаваць імперыю пад прымусам немагчыма. Куды больш рэальна пабудаваць садружнасць суверэнных рэспублік, заснаваную на ўзаемавыгадным інтарэсе, перш за ўсё эканамічным.

Сучасная гісторыя падае нам прыклады новых прагрэсіўных формаў узаемаадносін суверэнных дзяржаў, якія ўтварыліся на руінах еўрапейскіх імперый.

Напрыклад, краіны Бенілюкса ўяўляюць сабой эканамічны саюз суверэнных дзяржаў Бельгіі, Нідэрландаў і Люксембурга, які пабудаваны на аснове глыбокай інтэграцыі эканамічных узаемасувязей і падзелу працы паміж нацыянальнымі гаспадаркамі. Адзначым, што ў эканамічны саюз, як правіла, аб'ядноўваюцца пераважна блізкія па ўзроўні эканамічнага развіцця дзяржавы.

Еўрапейская Эканамічная Садружнасць (ЕЭС) уяўляе сабой рэгіянальную інтэграцыю краін Заходняй Еўропы не толькі ў галіне эканомікі, але і палітыкі. Напрыклад, краіны-ўдзельніцы ЕЭС аб'яднаны ў ваенны блок НАТО. Членства ў ЕЭС носіць абарачальны характар.

Працэс нацыянальна-дзяржаўных пераўтварэнняў прыйшоў і ва Усходнюю Еўропу і, у прыватнасці, у СССР. Трэба ставіцца да гэтага, як да аб'ектыўнай рэальнасці. Звышцэнтралізаваная сістэма кіравання эканомікай СССР магла доўгі час нівеліраваць свае недахопы за кошт велізарных прыродных багаццяў краіны і культу рабскай псіхалогіі, якая навязвалася савецкім людзям. Але ўсяму ёсць мяжа. Барацьба Цэнтра за неабмежаваную ўладу выклікала ў некаторых савецкіх рэспубліках адпаведную адваротную рэакцыю, што прывяло да аслаблення ўлады Цэнтра, узмацнення асобных рэспублік і развіцця цэнтрабежных тэндэнцый.

Дэцэнтралізацыя сістэмы кіравання адкрывае для рэспублік магчымасці ўстанаўліваць аптымальныя гаспадарчыя сувязі, што садзейнічае іх паскоранаму эканамічнаму развіццю.

Што ж прадугледжвае праект новага Саюзнага дагавора, прадстаўлены на IV З'ездзе народных дэпутатаў СССР? Першае знаёмства з дакументам паказвае, што ў аснове праекта ляжыць канцэпцыя абноўленай унітарнай дзяржавы з яшчэ большым умацаваннем улады Цэнтра. Гісторыя ўжо ведае прыклады, калі пры пагрозе распаду імперыі робяцца спробы яе захавання за кошт умацавання ўлады Цэнтра. Але да доўгатэрміновых станоўчых вынікаў гэта не прыводзіла ніколі.

Перш за ўсё. трэба паставіць пытанне: «Якая мэта заключэння новага Саюзнага дагавора?» Трэба адзначыць, што калі спачатку Цэнтрам настойліва адкладвалася заключэнне новага Дагавора, дык зараз ён настойліва навязвае яго саюзным рэспублікам. Пытанне аб заключэнні новага Дагавора ўзнікла на хвалі пратэстаў саюзных рэспублік супраць татальнай цэнтралізацыі, супраць узурпацыі Цэнтрам практычна ўсіх паўнамоцтваў рэспублік у любых галінах эканамічнага, палітычнага і сацыяльнага жыцця. Рэспублікі запатрабавалі не фармальнай, а сапраўднай суверэннасці.

Канцэнтрацыя органаў улады і кіравання ў Цэнтры, як гэтага і трэба было чакаць, прывяла да заняпаду эканомікі, што ў сваю чаргу абвастрыла сацыяльна-палітычную сітуацыю ў рэспубліках. З гэтай нагоды давайце паглядзім, што прапануе прадстаўлены праект.

У прэамбуле гаворыцца, што суверэнныя рэспублікі з'яўляюцца ўдзельнікамі Дагавора. Але ці маюць рэспублікі рэальныя прыкметы суверэннасці? Думаю, што не. Маю на ўвазе сваю армію, свае сілы бяспекі, сваю банкаўскую сістэму і г. д. Далей чытаем: «...выражаючы волю народаў да абнаўлення свайго Саюза... вырашылі на новых асновах пабудаваць свае адносіны ў Саюзе Суверэнных Савецкіх Рэспублік». Для каго ён свой, а для каго і чужы. Літва, напрыклад, выказалася за самастойнасць без СССР, і не лічыцца з гэтым нельга. А калі Кыргызстан (былая Кіргізская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка) вырашыць уступіць у Саюз ССР? Ці будуць прымацца ў Саюз несацыялістычныя рэспублікі? У праекце ж пра сацыялістычны выбар нічога не гаворыцца.

З раздзела «Агульныя прынцыпы» высвятляецца, што кожная рэспубліка — суверэнная дзяржава і Саюз ССР таксама суверэнная дзяржава. Гэта неразуменне самой сутнасці суверэннасці. Суверэнітэт — гэта вяршэнства і незалежнасць улады. Як можа быць суверэннай дзяржава ў суверэннай дзяржаве? Гэта юрыдычны нонсенс. Адной з адзнак дзяржавы з'яўляецца пэўная тэрыторыя, на якую распаўсюджваецца юрысдыкцыя гэтай дзяржавы. Такім чынам, тэрыторыя Беларусі будзе знаходзіцца пад юрысдыкцыяй дзвюх дзяржаў? З другога боку, Вярхоўны Савет СССР адмовіўся прызнаць Дэкларацыі саюзных рэспублік аб дзяржаўным суверэнітэце. Калі Беларусь суверэнная дзяржава, то тут не павінны дзейнічаць законы іншых дзяржаў. Згодна праекту новага Саюзнага дагавора, суверэннасць Беларусі — гэта ўсё тая ж фікцыя.

Адзначым яшчэ некалькі прынцыповых момантаў у праекце Дагавора.

Артыкул I. Членства ў Саюзе. Праект не прадугледжвае права свабоднага выхаду рэспублік з Саюза. У старым Дагаворы гэта было дакладна зафіксавана ў артыкуле 4. Замест права свабоднага выхаду новы праект прадугледжвае магчымасць выключэння рэспублікі з Саюза.

Артыкул 2. Грамадзянства. Ці можа існаваць грамадзянства без суверэнітэту? Грамадзянства — палітычная і прававая прыналежнасць асобы да канкрэтнай дзяржавы. Дзяржава надзяляе грамадзяніна правамі. У сілу грамадзянства на чалавека распаўсюджваюцца законы дзяржавы.

Пералік заўваг можна падоўжыць. Але не гэта галоўнае. Галоўнае тое, што ініцыятыва заключэння Саюза павінна зыходзіць з нізоў, ад саміх рэспублік. Ім трэба самім вызначыць свой лёс, а не Цэнтру, які ў першую чаргу ставіць задачу захавання свайго пануючага становішча.

I апошняе. Вытворчыя, фінансава-крэдытныя, гандлёвыя і іншыя сувязі, якія склаліся на сённяшні дзень у СССР, а таксама неабходнасць узгодненых дзеянняў у ажыццяўленні эканамічных і палітычных рэформ вымушаюць Беларусь да эканамічнага міжрэспубліканскага супрацоўніцтва. Нам патрэбна Садружнасць Суверэнных Рэспублік на грунце эканамічнага саюза. Гэта тая рэальнасць, да якой сёння вядуць рэфарматарскія працэсы ў нацыянальна-дзяржаўнай будове СССР. Суверэнныя рэспублікі павінны ў бліжэйшай будучыні дамовіцца аб стварэнні міждзяржаўнага эканамічнага саюза, бо сітуацыя проста вымушае да гэтага.

Што датычыць палітычнага і абароннага саюза, то ён таксама, я глыбока ў гэтым упэўнены, стане рэальнасцю ў бліжэйшым будучым, калі ўзнікне кансалідацыя суверэнных рэспублік у межах эканамічнага саюза.

I наконт рэферэндуму, аб якім зараз шырока распавядаюць афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі. Аддзеламі ЦК КПБ распрацавана арыенціроўка для партыйных камітэтаў і бюро да рэферэндуму па пытанні захавання СССР. Вось вытрымка з гэтага дакумента: «Борьба за заключение нового Союзного договора, сохранение СССР — решающий для коммунистов политический экзамен на переломе собственных судеб и будущности страны, республики». Зноў, як бачым, наперадзе партыйныя амбіцыі, толькі не інтарэсы беларускага народа. Мэта рэферэндуму — атрыманне вотуму даверу прэзідэнту для ажыццяўлення чарговых праграмных установак КПСС, генеральным сакратаром якой ён адначасова з'яўляецца. А можа хопіць ужо эксперыментаў над народам? Час зрабіць вывады.

Дык да чаго ж мы ідзём? Да аднаўленай імперыі ці да садружнасці раўнапраўных дзяржаў? Гісторыя падказвае, што выйсце з крызісу для Беларусі — гэта поўны дзяржаўны суверэнітэт.

## РАДКІ З ПІСЬМАЎ

### «...ЦЯГНУЦЬ У САЮЗ»

Я — супраць Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік на аснове федэрацыі. Я — за канфедэрацыю незалежных дзяржаў Літвы, Беларусі, Расіі ды іншых, пазбаўленых камуністычнай ідэалогіі і сацыялістычнага накірунку. «Саюз» патрэбен перш за ўсё камуністам, Цэнтру, каб забіраць з рэспублік сродкі ў міфічны дзяржаўны бюджэт, каб праводзіць агульную камуністычную палітыку...

Раней нас цягнулі за вушы ў рэвалюцыю, у калектывізацыю, у сацыялізм, цяпер гэтак жа цягнуць у абноўлены (і калі ж толькі паспелі яго абнавіць?!) Саюз.

**Андрэй ПЯТКЕВІЧ.**
в. Усялюб,
Навагрудскі раён.

### «...РАДЫ З ЛЮДАМ НЕ БЫЛО»

Арганізаваўшы гэтую кампанію, улады ўпэўнены ў станоўчых выніках апытання, менавіта таму яны адважыліся на палітычную гульню, якая афіцыйна атрымала назоў «рэферэндум». У адваротным выпадку Цэнтр наўрад ці пайшоў бы на рызыку. Відаць, вярхі ўпэўнены ў моцы імперскага сіндрому, якім мы пранізаны.

...Ніякае рады з людам не было, калі прымаўся закон аб уласнасці на зямлю, калі ўводзілі войскі ў Літву. Дык што, «наш рулевой» ідзе на чарговы падман? І грошы, якіх не хапае на вырашэнне праблем Чарнобыля, знойдуцца?

**Юрась ДУБІНА.**
г. Столін.

### «...ГЭТА НЕ ВЫБАР»

Падрыхтоўка да рэферэндуму не павінна праводзіцца так паспешліва, за адзін месяц. I пытанне павінна быць не такім сафістычным і кручкаватым. Патрэбен выбар, за які Саюз галасаваць: 1) федэрацыю сучаснага тыпу; 2) канфедэрацыю суверэнных рэспублік; 3) супольнасць суверэнных рэспублік; 4) поўную незалежнасць ад Цэнтра. Такі рэферэндум быў бы рэальным выбарам. Народам жа навязваюць толькі першы пункт. Гэта — не выбар, а падман.

**Мікола СЛАЎЯНАЎ.**
г. Белаазёрск,
Брэсцкая вобл.

### «...ШТО ГЭТА ЗА СУВЕРЭНІТЭТ»

Менавіта ўдзел у Саюзе за 70 гадоў зрусіфікаваў Беларусь і тое ж будзе працягвацца ў будучым, у «абноўленым Саюзе». Цяпер Беларусь стала суверэннай рэспублікай... Але што гэта за суверэнная рэспубліка, калі яна не можа карыстацца сваёй роднай мовай, не можа свабодна пасылаць дзяцей у нацыянальную школу?!

**Уладзімір ЖАБІНСКІ.**
г. Вільня.

# Анатоль Сямёнавіч ГРАЧАНІКАЎ



Цяжкую страту панесла беларуская літаратура—7 сакавіка 1991 года заўчасна памёр вядомы беларускі паэт, член КПСС, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, член Рады Саюза пісьменнікаў БССР, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Анатоль Сямёнавіч Грачанікаў.

Анатоль Сямёнавіч Грачанікаў нарадзіўся 8 верасня 1938 года ў вёсцы Шарпілаўка Гомельскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і служачага. У 1960 годзе ён скончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. Працаваў на Гомельскім рамонтна-механічным заводзе, у Гомельскім абкоме камсамола, першым сакратаром Гомельскага гаркома камсамола. Пасля заканчэння Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве (1969) А. С. Грачанікаў—загадчык аддзела літаратуры газеты «Літаратура і мастацтва». У 1971 годзе ён быў абраны намеснікам старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Працяглы час узначальваў дзіцячыя часопісы «Вясёлка» (1976 — 1978) і «Бярозка» (1978 — 1982). З 1982 года — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць».

Першыя вершы Анатоля Грачанікава з'явіліся ў друку ў 1957 годзе, першы зборнік паэзіі «Магістраль»—у 1964 годзе. Творы маладога паэта адразу звярнулі ўвагу чытача шчырасцю і праўдзівасцю паэтычнага радка, прагным імкненнем разабрацца ў праявах сучаснага супярэчлівага свету, яго трывогах і складанасцях, жаданнем глыбока зазірнуць у душу чалавека. Здзяйсняючы свае творчыя задумы, паэт напісаў і выдаў шэраг па-сапраўднаму цікавых і таленавітых кніг: «Круглая плошча», «Грыбная пара», «Начная змена», «Дрэва на выспе», «Калі далёка ты...», «Я вас люблю», «Жнівень-45» і іншыя. Станоўча былі адзначаны літаратурнай крытыкай і кнігі вершаў А. С. Грачанікава для дзяцей: «Валерка і лятаючая талерка», «Казка пра Івана-ганчара і пачвару цара», «Планета дзяцей». З кожнай кнігай мацнеў голас паэта-грамадзяніна, які горача любіў свой народ, жыў яго думамі, памкненнямі, спадзяваннямі. Творы паэта шырока перакладаліся на мовы народаў нашай краіны, а таксама на мовы іншых краін свету. За кнігу вершаў «Звезды и курганы» ён быў удастоены звання лаўрэата Усесаюзнага літаратурнага конкурсу імя Мікалая Астроўскага. А. С. Грачанікаў актыўна працаваў і сам у галіне мастацкага перакладу.

Анатоль Грачанікаў быў пісьменнікам яркага таленту, кроўна злітаваны думкамі і марамі, усёй сваёй творчасцю з лёсам Радзімы.

Шмат гадоў працуючы ў часопісах, А. С. Грачанікаў клапаціўся аб літаратурнай змене — памагаў маладым і асабістым творчым вопытам, і канкрэтнымі справамі.

А. С. Грачанікаў актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці. Абіраўся членам Бюро і членам ЦК ЛКСМБ. Быў членам савета па дзіцячай і юнацкай літаратуры Дзяржкамвыда СССР, членам прэзідыума Рэспубліканскага камітэта абароны міру. Дзе б ні працаваў А. С. Грачанікаў, ён карыстаўся нязменнай любоўю і павагай людзей, як ініцыятыўны і старанны работнік, прынцыповы і чулы таварыш.

Працоўныя заслугі А. С. Грачанікава адзначаны медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Светлая памяць пра пісьменніка-камуніста, таленавітага паэта, чалавека шчодрай душы і высокага сумлення назаўжды застанецца ў нашых сэрцах.

**М. І. Дзямянцей, А. А. Малафееў, В. Ф. Кебіч, А. С. Камай, А. У. Русецкі, Н. М. Мазай, І. А. Брыль, В. У. Быкаў, П. Е. Панчанка, Я. І. Скурко (Максім Танк), І. П. Шамякін, В. У. Адамчык, М. Я. Аўрамчык, Р. І. Барадулін, В. У. Блакіт (Болтач), А. І. Бутэвіч, А. І. Вярцінскі, А. У. Васільеў, А. М. Ваніцкі, М. Р. Вайцянкоў, Н. С. Гілевіч, М. С. Гіль (Гілевіч), С. І. Грахоўскі, А. А. Грахоўскі, В. М. Грышановіч, Г. В. Далідовіч, А. П. Жалязоўскі, А. А. Жук, С. І. Законнікаў, В. В. Зуёнак, Ц. В. Крысько (Васіль Вітка), А. П. Кудравец, А. А. Каратай (Максім Лужанін), Я. І. Каршукоў, А. А. Крыўдзенка, У. С. Ліпскі, А. А. Лойка, В. А. Лукша, П. М. Макаль, В. У. Мулярчык, І. Я. Навуменка, У. П. Някляеў, У. А. Паўлаў, А. У. Пісьмянкоў, Б. І. Сачанка, І. Д. Сіпакоў, В. П. Супрунчук, І. Г. Чыгрынаў, А. А. Шабалін.**

## ГАЛАЛЁДЗІЦА

Памяці А. ГРАЧАНІКАВА

**Нешта часта на Фрунзе, 5
Пахавальныя маршы гучаць...
Род пісьменніцкі
нешта зводзіцца,
Нежывучы пісьменніцкі род.
Галалёдзіца, галалёдзіца,
Галалёдзіца, голы лёд.**

**Голы лёд—
халодны і слізкі.
Небяспечны лёд сакавіцкі.
Калі ставіш нагу—не дуры.
Калі падаеш—дагары.
Галалёдзіца, галалёдзіца.
Чалавеку цяжка ходзіцца.
Тым ільдом
ён ідзе напрасткі
У апошні свой шлях
людскі...**

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

12.03.91 г.

## ПАМЯЦІ ЗЕМЛЯКА

●

**Калі хаваеш родных і сяброў,
сябе хаваеш з імі назаўсёды,—
так рэха са знявечаных бароў
сябе хавае ў ручаях пад лёдам.
Пад сонцам будзе зноў звінець
жаўрук,
а свет збяднеў на радасць
прывітанняў,
ахаладзеў на столькі цёплых
рук
і пазмрачнеў ад стольких
пахаванняў.
На весялосць сустрэчы
з дарагім
больш далягляд так, як раней,
не кліча—
хавае ў перагорклы шэры дым
цяпер сваё маўклівае аблічча.**

**Віктар ЯРАЦ.**

●

**Хай песня на паўноце
абарвана,
Ды ў нашых сэрцах б'ецца той
матыў.
Ты быў для нас усіх надзей
світанак,
Бо па-зямляцку, як ніхто,
любіў.**

**Балюча нам, што сёння
не пытаеш:
— Як Гомель наш? Ці не
разліўся Сож?
Чаму ж тады так рана
адлятаеш,
Што аж вясна бярэцца на
мароз...**

**Цябе й прырода адпускаць
не хоча,
Бо з ёй чуллівым слоўкам
гаварыў.
Хай васількамі адцвітаюць
вочы,—
Не веру смерці! У песні ты
жывы!**

**Схіляе голаў Гомельшчына
ў скрусе.
Бывай, сябрук, салоўка наш,
бывай!
Злучыўся сэрцам з роднай
Беларуссю,
А як жа без цябе бацькоўскі
край?!**

**Таіса МЕЛЬЧАНКА.**

г. Гомель.

# БАЛЮЧАЯ, НЕЗАМЕННАЯ СТРАТА

На жаль, ужо не першы раз прыходзіцца пісаць альбо гаварыць развітальнае слова пра тых, хто яшчэ нядаўна жыў з намі, дбайна ўрабляў літаратурнае поле, сеяў свае мастацкае зерне праўды і дабрыні, быў выказнікам дум і пачуццяў роднага народа.

Анатоль Сямёнавіч Грачанікаў... З гэтым імем ва ўяўленні шматлікіх чытачоў паўстае значная постаць беларускага паэта — аўтара вершаў, паэм пра нялёгкае, але і ў многім акрыленае пасляваеннае станаўленне апаленых вайною дзяцей, пра шчаслівы і ў той жа час драматычны лёс гомельскіх палешукоў, пра духоўныя перыпетыі нашых сучаснікаў — дзяцей бурнага, натхнёнага, стваральнага і адначасова разбуральнага XX стагоддзя. У гэтых творах не знойдзеш наўмысных знешніх эфектаў, таннай папулярнасці, а найперш адчуваеш няспынную рэакцыю чуйнай чалавечай душы—шчырасць, роздум, суперажыванне, радасць, боль, турботу за паўнакроўнае жыццё кожнага чалавека ў паасобку і ўсёй нашай нацыі ў цэлым. Ужо пры жыцці паэта яго творы былі прызнаныя і высока ацэненыя рознымі прэміямі, у тым ліку і Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы.

Магчыма, менш вядомы шырокай грамадскасці, у тым ліку і некаторым сабратам па творчасці, Грачанікаў як рэдактар і чалавек. Восем гадоў сумеснай працы даюць мне падставу сказаць, што і тут Анатоль Сямёнавіч быў асобаю, постаццю ў пэўным сэнсе так званага твардоўскага гарту і шмат зрабіў для спрыяльнай атмасферы ў беларускай літаратуры. Набыўшы пасля заканчэння ў 1960 годзе Гомельскага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту рабочую загартоўку на заводзе, а пасля навыкі работы з моладдзю ў камсамоле, ён павышае філалагічную адукацыю на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве і з 1969 года пераходзіць на прафесійную пісьменніцкую і рэдактарскую працу. Загадчык аддзела літаратуры ў «ЛіМе», галоўны рэдактар «Вясёлкі», «Бярозкі» і апошнія, як казаў ужо, восем гадоў узначальваў калектыў часопіса «Маладосць» (на гэтым адрэзку быў час, калі ён працаваў і ў апараце Саюза пісьменнікаў Беларусі).

У «Маладосць» Анатоль Сямёнавіч прыйшоў ужо сталым чалавекам, але, як кажуць, адразу трапіў з карабля на баль. Тады яму на рэдактарскі стол лёг няпросты раман Алега Лойкі «Як агонь, як вада...» пра жыццёвы і творчы лёс Янкі Купалы. Пра гэты рукапіс ужо хадзілі самыя супярэчлівыя чуткі, ім зацікавіліся «наверсе». Калі там прачыталі твор, засталіся задаволеныя, як аўтар паказаў дарэвалюцыйную беларускую інтэлігенцыю, але настойліва «параілі» Анатолю Сямёнавічу апусціць, не друкаваць раздзелы, што былі прысвечаныя трагізму Янкі Купалы ў 20—30 гады: маўляў, гэта «кідае цень не столькі на крытыкаў-аглабельшчыкаў, як на савецкі лад, на партыю ў цэлым, ды ў чытачоў можа скласціся ўражанне, што народны паэт пісаў і друкаваўся да рэвалюцыі лягчэй, чым пасля яе».

Узрушаны Анатоль Сямёнавіч расказаў мне, намесніку, пра сітуацыю. Я рашуча выказаўся за варыянт твора, падрыхтаваны рэдакцыяй. Мы паразважалі, дзе і ў чым крыху саступіць (1982 год, пік каманднa-адміністрацыйнай сістэмы і кіраўніцтва ёю літаратурай!), якія мець у запасе фармуліроўкі, каб усё ж паказаць трагізм Янкі Купалы (а з гэтым усёй нашай літаратуры, усяго нашага народа) у 30-ыя гады.

Вызначаючы праграму на будучыню, Анатоль Сямёнавіч падкрэсліў, што мы працуем не абы-дзе: «Маладосць» — дзіця паслясталінскай адлігі, яна дала пуцёўку ў літаратуру вялікаму атраду беларускіх пісьменнікаў, многія надрукаваныя тут творы шырока вядомыя, дык нельга зніжаць узровень часопіса. Не варта, гаварыў ён, кідацца ў крайнасці, аддаваць перавагу нейкаму аднаму накірунку, трэба радавацца за кожны таленавіты твор і смела падтрымліваць яго. Ён заступіўся за вышэйназваны раман, які пасля гэтага лягчэй пайшоў у свет у мінскім і маскоўскіх выдавецтвах. З аднаго боку, такая самастойная пазіцыя не магла тады вельмі спадабацца, але, з другога боку, не магло не заспакоіць і іншае: усё ж варта мець справу іменна з тым рэдактарам, які не перакладае адказнасць на кагосьці, а падстаўляе сваё плячо, а то і сваю галаву. Якраз з такім падыходам у застойныя і пераломныя часы былі падтрыманыя многія творы Уладзіміра Караткевіча і Івана Шамякіна, раман «Свае і чужынцы» Івана Чыгрынава, гістарычнае эсэ Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь», успаміны Ларысы Геніюш «Споведзь», артыкулы і публікацыі Барыса Сачанкі, шматлікія творы маладых. Толькі наіўны чалавек можа лічыць, што было лёгка ва ўмовах нашай рэспублікі (нават цяпер, у перабудовачны час) праламаць ідэалагічную звышпільнасць і падазронасць, тэндэнцыю да далейшага замоўчвання і захавання фальсіфікацыі нашай гісторыі і культуры, ганьбавання слаўных сыноў нашага народа. Асабіста я ведаю, колькі было нам грозных званкоў, выклікаў Анатоля Сямёнавіча ў высокія паверхі, які прыгнечаны ён адтуль вяртаўся, засмучана хістаў галавою: «Божа. калі з'явяцца там розум, павага да роднай зямлі, гісторыі, культуры, да нас, пісьменнікаў?» Разважлівасць, шырокі погляд на наша мінулае і на наш дзень, тактоўнасць, імкненне да сумленнага служэння справе нашага шаноўнага рэдактара не маглі не ўплываць на нас, на яго падначаленых, і на нашых аўтараў. Думаецца, «Маладосць», калі можна так сказаць, эпохі Грачанікава не страціла сваіх набыткаў, а яшчэ дадала да іх новыя і значныя.

Апошнія паўгода для «Маладосці», як і для ўсяго беларускамоўнага друку, вельмі нервовыя. Анатоль Сямёнавіч прыклаў шмат намаганняў, каб часопіс, адключаны ад партыйнага сілкавання, не толькі ацалеў, але і далей належна выконваў сваю місію. Бясспрэчна, найперш з-за яго арганізатарскіх якасцей і аўтарытэту пасапраўднаму зразумелі турботы выдання, маладых аўтараў, чытацкай грамадскасці ў ЦК ЛКСМБ, які ў нялёгкіх умовах пераходу да рынačнай эканомікі ўзяў нашы маладзёжныя газеты і часопісы на сваё ўтрыманне. У самы апошні час Анатоль Сямёнавіч дабіваўся павелічэння ганарару для маладых аўтараў—па-ранейшаму самай неабароненай катэгорыі нашых творцаў. Здаецца, ёсць пэўныя зрухі, але... руплівага, паважанага нашага галоўнага рэдактара ўжо няма...

Страта балючая і незаменная. Адно суцяшэнне: па-першае, застанецца яго высакародныя дух і справы ў «Маладосці», а па-другое, на зорным небе беларускай літаратуры будзе і далей вабна свяціць паэтычная зорка яго слаўнага імені.

**Генрых ДАЛІДОВІЧ.**

---

**Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Анатоля ГРАЧАНІКАВА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

---

**Лімаўцы смуткуюць з прычыны трагічнай смерці выдатнага паэта, рэдактара часопіса «Маладосць» Анатоля Сямёнавіча ГРАЧАНІКАВА, жыццёвая дарога якога прайшла і праз «ЛіМ».**

---

**Супрацоўнікі часопіса «Маладосць» смуткуюць з выпадку заўчаснай смерці галоўнага рэдактара часопіса, вядомага паэта Анатоля Сямёнавіча ГРАЧАНІКАВА і выказваюць глыбокае спачуванне яго родным і блізкім.**

---

**Супрацоўнікі часопіса «Полымя» смуткуюць з прычыны заўчаснай смерці таленавітага паэта, галоўнага рэдактара «Маладосці» Анатоля ГРАЧАЧІКАВА і выказваюць шчырае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.**

---

**Рэдакцыйны калектыў «Нёмана» глыбока смуткуе з прычыны смерці галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Анатоля ГРАЧАНІКАВА і спачувае ў горы сям'і і блізкім нябожчыка.**



# СКАРБНІЦА БЕЛАРУШЧЫНЫ

## Беларускі нацыянальны музей у Вільні: 1921—1945 гг.

**Публікацыя ў «ЛіМе» артыкула Юрася Залоскі «Вяртанне ў Вільню» выклікала цікавасць. Многія чытачы напісалі ў рэдакцыю лісты з просьбаю расказаць пра Беларускі нацыянальны музей у Вільні, які згадваўся аўтарам. Рэдакцыя вырашыла адгукнуцца на гэтыя просьбы, тым больш, што сёлета якраз спаўняецца 70 гадоў з часу заснавання музея. Аповяд пра яго падрыхтаваў спецыяльна для «ЛіМа» сын аднаго з заснавальнікаў музея Антона Луцкевіча Лявон Луцкевіч.**

МАБЫЦЬ, большасць наведвальнікаў Вільні, якія прыязджаюць з Беларусі ды цікавяцца гісторыяй і культурай свайго народа, не абмінаюць старажытнага кляштара базыльянаў, які нейкі час быў сапраўдным культурным цэнтрам беларусаў у гэтым горадзе. Тут знаходзілася і Віленская беларуская гімназія, і праваслаўная духоўная семінарыя, і шэраг беларускіх арганізацый і устаноў, у тым ліку і беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя Івана Луцкевіча. Музей існаваў амаль чвэрць веку, а дакладней з 1921 да 1945 г. Яго гісторыя — гэта дужа цікавая старонка нашага культурнага жыцця, звязаная самым непасрэдным чынам з нацыянальна-вызваленчым рухам міжваеннага перыяду. На жаль, старонка дужа сумная, да таго ж і мала вядомая нашай сучаснай грамадскасці. Гэта яшчэ адна белая пляма нашай гісторыі, бо няма грунтоўных сучасных публікацый на гэтую тэму, якія адказвалі б на пытанні: як стварався музей, якім чынам існаваў, калі, як і чаму быў зліквідаваны?

Згодна трывала засвоеным стэрэатыпам лічыцца, што Віленскі беларускі музей існаваў у самых неспрыяльных для яго варунках. І вось у чым парадокс: калі толькі тыя «неспрыяльныя» варункі зніклі, музей перастаў існаваць. Яго зліквідавалі, як нешта нікому непатрэбнае. Цяпер можна часта пачуць словы шкадавання, але вінаватых быццам і няма. А музей жа так хораша ўпісваўся ў культурную спадчыну Вільні, колішняй сталіцы шматнацыянальнага Вялікага княства Літоўскага, багатай традыцыямі нацыянальнай і рэлігійнай талерантнасці.

Летась мінула 45 гадоў ад ліквідацыі музея, а сёлета варта было б адзначыць 70-годдзе яго заснавання і кінуць позірк на яго гісторыю. Тут трэба адзначыць, што тыя багатыя калекцыі беларускай старасветчыны, з якой у 1921 годзе паўстаў у Вільні беларускі музей, існавалі яшчэ значна раней. Яны былі плёнам збіральніцкай дзейнасці знанага археолага і грамадскага дзеяча Івана Луцкевіча. Ён збіраў і папаўняў свае калекцыі на працягу амаль усяго свайго свядомага жыцця, знаходзячы пры гэтым час і на археалагічныя раскопкі, і на выдавецкую і асветніцкую працу, будучы адначасова адным з лідэраў усяго грамадска-палітычнага адраджэнцкага руху. А помнікі старажытнасці ён пачаў збіраць яшчэ будучы вучнем трэцяга класа гімназіі, недзе ў апошнім дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя.

І. Луцкевіч фактычна і з'яўляецца заснавальнікам музея, хоць ягоныя калекцыі прыдбалі статус навуковай установы, падпарадкаванай Беларускаму навуковаму таварыству ў Вільні, толькі праз два гады пасля ягонае смерці. Важна яшчэ нагадаць, што ён жа быў і ініцыятарам стварэння ў 1918 г. таго навуковага таварыства, якому яшчэ за год да свае прадчаснае смерці падараваў усе сабраныя на працягу свайго жыцця скарбы з мэтаю заснавання нацыянальнага музея. Дык зусім заканамерна, што яго імем і быў названы музей.

Як сведчаць шматлікія публікаваныя ўспаміны, у «нашаніўскую пару», а дакладней на працягу 1910—1914 гг. калекцыі знаходзіліся ў памяшканні рэдакцыі газеты «Наша Ніва», якая тады размяшчалася на Завальнай вул.,7 разам з Беларускім выдавецкім таварыствам і кнігарняй. Ужо тады іх дужа каштоўныя экспанаты служылі крыніцай натхнення для многіх пісьменнікаў такой меры, як Янка Купала, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля ці Максім Гарэцкі, а таксама крыніцай інфармацыі для такіх гастроляў, як Вацлаў Ластоўскі, які, дарэчы, жыў тады пры рэдакцыі. Ці ж маглі не ўздзейнічаць на іх такія памяткі беларускай гісторыі ці культуры, як Біблія Скарыны, Літоўскі Статут, дзяржаўныя граматы Вялікага княства Літоўскага, пісаныя на беларускай мове, або «Мужыцкая праўда» Кастуся Каліноўскага, ці ўрэшце багатая калекцыя слуцкіх паясоў?

«Гэта ёсць фундамент нашага адраджэньня! Гэта і за тысячу гадоў будзе сьведчыць аб нас!»—казаў Максім Багдановіч, калі аглядаў калекцыі, будучы праездам у Вільні ў 1911 годзе. «Сьвятое гэта месца!»— з пафасам прагучалі словы Змітрака Бядулі, калі ён наведаў рэдакцыю ў 1912 годзе... Але ўсё гэта было ўшчэнт забыта нашымі функцыянерамі ад культуры, калі ў 1945 годзе вырашаўся лёс музея.

Ад 1914 да 1921 г. калекцыі захоўваліся ў доме на Віленскай вул., 33, дзе знаходзілася тады бібліятэка-чытальня Барыса Даніловіча і дзе жылі браты Луцкевічы. Гэтае памяшканне зрабілася ў той час своеасаблівым беларускім цэнтрам, аб чым згадваюць Максім Гарэцкі і Кветка Вітан у сваіх успамінах. Цяпер, пасля капітальнай рэканструкцыі, у гэтым будынку размясціўся знаны ў Вільні рэстаран «Паланга».

Затым ужо ўсе калекцыі і ўвесь кнігазбор былі перавезены ў славутыя Базыльянскія муры. З гэтага часу пачынаецца праца па сістэматызацыі і ўпарадкаванню калекцый, а таксама пачынаецца і прыток новых экспанатаў — ці то ахвяраваных прыватнымі асобамі, ці то набытых таварыствам. Аднак колькасць іх, раўнуючы да калекцый заснавальніка, была дужа невялікая, і характар збораў астаўся ў асноўных сваіх рысах такім самым, якім быў дагэтуль.

Творачы свае калекцыі, заснавальнік музея меў на мэце сабраць матэрыялы, якія далі б магчымасць вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа: беларускага мастацтва, галоўным чынам народнага, і беларускай культуры — з часоў Вялікага княства Літоўскага. Мабыць, у гэтым і была заканамернасць узнікнення гэтага музея менавіта ў Вільні, у былой супольнай сталіцы літоўскага і беларускага народаў у перыяд іх сумеснага незалежнага існавання ў адзінай дзяржаве. Безумоўна, храналагічны абсяг экспанатаў быў яшчэ значна шырэйшым — сягаў ад дагістарычных часоў да нашай амаль сучаснасці.

Нягледзячы на вельмі сціплае памяшканне — пяць экспазіцыйных залаў адносна невялікіх памераў, апрача архіва ды бібліятэкі — музей быў дужа шырокага профілю. У ім зберагаліся калекцыі: археалагічная, сфрагістычная, нумізматычная; калекцыя медалёў і крыжоў, слуцкія паясы і дываны Нясвіжскай, Гродзенскай і Слуцкай мануфактур, старажытная зброя, беларуская народныя музычныя інструменты, творы народных разьбяроў, іконы і карціны, рукапісныя кнігі і старадрукі.

Кнігазбор музея налічваў звыш 14 тысяч тамоў. Ён складаўся са збору самога Івана Луцкевіча—пераважна старадрукі і унікальныя рукапісныя кнігі, часткі бібліятэкі знанага беларускага этнографа і фалькларыста Еўдакіма Раманава, які жыў у Вільні з 1906 да 1916 г., і ўрэшце ўсёй бібліятэкі Барыса Даніловіча, знанай у Вільні з 1904 г. як бібліятэка-чытальня «Веды» («Знание»), у якой у 1908—1909 гг. працаваў Янка Купала. Пасля першай сусветнай вайны Даніловіч апынуўся ў Адэсе, а сваю бібліятэку ахвяраваў беларускаму грамадству ў Вільні.

Сярод найбольш каштоўных кніг музея можна адзначыць хіба найстарэйшае рукапіснае Жухавіцкае Евангелле XIV ст., малітоўную татарскую кнігу Аль-Кітаб з вёскі Сорак Татар пад Вільняю, напісанае на беларускай мове арабскімі літарамі з XIV ст., цэлы шэраг рукапісных кніг рэлігійнага зместу за перыяд з XIV да — XVII стст., а таксама дзяржаўныя і судовыя граматы Вялікага княства Літоўскага на беларускай мове. Са старадрукаў бадай найстарэйшая кніга з друкарні Швайпольта Фіёля ў Кракаве (канец XIV ст.), Біблія Скарыны з Пражскай друкарні (частка), урэшце, Статут Вялікага княства Літоўскага, надрукаваны ў 1588 г. у друкарні братоў Мамонічаў у Вільні.

З пазнейшых выданняў было шмат кніг па беларусазнаўству, беларускія кніжкі бадай ад самага пачатку ўзнаўлення беларускага друку ў XIX ст., выданні «нашаніўскай» пары, гадавіны газет «Наша Доля» і «Наша Ніва». Бібліятэка ўсцяж папаўнялася беларускімі выданнямі міжваеннага часу, як з віленскіх выдавецтваў, так і з Савецкай Беларусі.

Багаты архіў пры музеі дакументальна адлюстроўваў усю гісторыю беларускага адраджэнскага руху, у ім захоўвалася таксама шмат арыгінальных рукапісаў твораў беларускіх пісьменнікаў, багатая калекцыя унікальных фотаздымкаў, многа матэрыялаў з даваенных часоў і з перыяду дзяржаўнага будаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі.

У археалагічным аддзеле было каля 200 экспанатаў, знойдзеных пры раскопках курганоў, якія праводзіў археолаг І. Луцкевіч, а таксама іншыя асобы. Шмат прадметаў было з раскопак Яўстафія Тышкевіча, якія той рабіў па ўсёй Беларусі. Цікавыя рэчы знойдзены ім на Барысаўшчыне (ваколіцы вёскі Паляле-еўка) у 1876 г., сярод іх срэбныя пацеркі і іншыя аздобы. З раскопак П. Цэрабеева 1893—94 гг. на Дзісеншчыне было 9 прадметаў курганнай керамікі. Былі таксама асобныя прадметы з калекцыі Генрыка Татура з яго раскопак у Мінскай губерні.

З навейшых раскопак цікавыя выкапні, знойдзеныя ў Мядзельскай гміне Пастаўскага павета, таксама ў ваколіцах возера Нарач. Агулам устаноўлена паходжанне археалагічных экспанатаў з 18 паветаў: Віленскага, Вілейскага, Свянцянскага, Лідскага, Ашмянскага, Дзісненскага, Пастаўскага, Гродзенскага, Наваградскага, Нясвіжскага, Мінскага, Барысаўскага, Чавускага, Сенненскага, Бабруйскага, Ігуменскага, Гомельскага (паводле дадзеных інвентарнай кнігі музея, распачатай у 1922 г.). Калі б была магчымасць удакладніць мясцовасці ўсіх раскопак Я. Тышкевіча, дык тэрыторыя, з якой меліся археалагічныя экспанаты, шмат бы пашырылася.

Экспанаты археалагічнага аддзела знаходзіліся ў першай, найбольшай экспазіцыйнай зале музея. Тут можна было ўбачыць знойдзеныя пры раскопках Ніжняга замка ў Вільні кафлю, цэглу, дахоўку і іншыя будаўнічыя дэталі, фрагменты посуду, а таксама дужа цікавыя «галаснікі» са сцяны Каложскай царквы ў Гродне, якія ўмуроўваліся для лепшай акустыкі.

Вельмі даўніх часоў сягала багатая сфрагістычная калекцыя, якая налічвала больш за сотню пячацяў. Найстаражытнейшыя — гэта пячаці на персценях полацкіх князёў Усяслава (XI ст.) і Барыса (XII ст.). Не менш цікавая была пячаць Міндоўга з Пагоняй пад каралеўскай каронай, пячаць караля Яна Сабескага, а таксама розных рэлігійных і грамадскіх арганізацый ды дзяржаўных устаноў Вялікага княства Літоўскага.

Гэткай жа даўніны сягае калекцыя манет і медалёў. Даследчыкі лічылі дужа цікавым медальён XI—XII стст. з эмблемамі — з аднаго боку паганскімі (змеявік), з другога — хрысціянскімі, які адносіцца да пераходнага часу ў фарміраванні рэлігійнага жыцця нашага краю.

Сярод прадметаў рэлігійнага культу вызначалася калекцыя старадаўніх крыжоў (пачынаючы ад XII ст.), прадметаў касцельнага і царкоўнага рыштунку і вопратак, у тым ліку багата вышываныя сакосы віленскіх мітрапалітаў XV і XVI стст., адзін з якіх быў пашыты са слуцкіх паясоў.

Вартая ўвагі была калекцыя абразоў з розных перыядаў, пачынаючы ад XIII ст., якая давала багаты матэрыял дзеля вывучэння гісторыі беларускага мастацтва ў галіне іканапісу.

Свецкі жывапіс быў прадстаўлены цэлым шэрагам работ вядомых мясцовых майстроў, як Смуглевіч, Русецкі, Сляндзінскі, Трутнёў. Зборы папаўняліся працамі і сучасных для таго перыяду мастакоў, як Сергіевіч, Дыдзякас, Варнас, Драздовіч. Асабліва шмат было прац Язэпа Драздовіча, якога дужа трапна акрэсліў Арсень Ліс у сваёй кніжцы «вечным вандроўнікам». Мо якраз таму, што гэты дужа самабытны і таленавіты мастак ніколі не меў у жыцці сталага прытулку, усе свае больш каштоўныя працы ён пакідаў у музеі. Тут была багатая калекцыя ўзораў народных тканін, альбомы малюнкаў краязнаўчай тэматыкі, разьба па дрэве, карціны гістарычнага і сімвалічнага характару і ўрэшце цыкл дзівосных «касмічных візіяў»— карцін, прадстаўляючых пейзажы з планет амаль усяе нашай сонечнай сістэмы.

У этнаграфічным аддзеле былі ўзоры народнай вопраткі і тканін, прадметы сялянскага побыту, вялікая колькасць твораў народных разьбяроў, сярод іх незвычайна характэрныя і цікаўныя з мастацкага боку прымітыўныя фігуры Хрыста і святых — з дрэва і металу. Былі і народныя музычныя інструменты: ліра, некалькі тыпаў дуды, цымбалы, трубы пастырскія, рагі ды жалейкі.

У асобнай зале экспанаваліся ўзоры старажытнай зброі — панцыры, кальчугі, мячы, шаблі, стрэльбы, пісталеты, быў нават меч віленскага ката, набыты ўжо ў дваццатых гадах.

Як бачым, калекцыі музея былі дужа разнародныя, экспанатаў было многа, частка з іх нават не магла трапіць у экспазіцыю з-за цеснаты памяшкання. Да таго ж на працягу існавання музея зборы яго ўсцяж папаўняліся.

Музей знаходзіўся ў тым самым будынку, што і Віленская беларуская гімназія, заснаваная тут яшчэ ў 1919 годзе. Ад самага пачатку існавала цесная сувязь між гэтымі двума беларускімі асяродкамі. Мэтай гімназіі было ўзгадаванне кадраў беларускай нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, і суседства музея мела станоўчы ўплыў на фарміраванне яе светапогляду. Гэтае суседства было ўзаемна карыснае і для музея, і для гімназіі. Вучні гімназіі ад самых малых да найстарэйшых, групамі ці ў адзіночку, а таксама арганізаванымі экскурсіямі, часта наведвалі музей, карысталіся з яго бібліятэкі, а таксама са свайго боку многа дапамагалі музею.

Не менш цесная сувязь злучала музей і з беларускай моладдзю, якая вучылася ў сценах універсітэта Стэфана Баторыя. Яна мела магчымасць карыстацца зборамі музея, асабліва яго багатым архівам, а адначасова папаўняла яго фонды новымі экспанатамі з розных куткоў Заходняй Беларусі. Пераважна гэта былі экспанаты з галіны этнаграфіі, трапляліся і археалагічныя знаходкі. Безумоўна, усё гэта ахвяравалася цалкам благачынна.

**Лявон ЛУЦКЕВІЧ**









Экспанаты Беларускага музея.

Уся праца музея мела культурна-асветны характар і была накіравана на захаванне нацыянальнай свядомасці беларусаў ва ўмовах польскай акупацыі. Зразумела, што адносіны афіцыйных дзяржаўных улад былі яўна непрыхільнымі да яго дзейнасці. Праўда, музей усё ж атрымліваў невялічкую дзяржаўную датацыю на кошты ўтрымання памяшкання ды дужа сціплай аплаты двух супрацоўнікаў. Затое ўсё заходнебеларускае грамадства шчыра і ахвярна падтрымлівала музей, разумела вялізнае значэнне яго існавання. У музеі можна было сустрэць прадстаўнікоў і беларускае моладзі, і старэйшага пакалення. Навуковае таварыства і ягоны музей зрабіліся для беларусаў своеасаблівым цэнтрам навукі і культуры.

Акрамя таго, пераважна ў нядзелі і ў святочныя дні музей масава наведвалі вясковыя экскурсіі, што прыязджалі ў Вільню, і гэта асабліва шкодзіла польскай дзяржаўнай прапагандзе, накіраванай на асіміляцыю беларускага тутэйшага насельніцтва. На жыхароў вёсак Віленскага краю, у асноўнай сваёй масе беларусаў, наведванне музея рабіла вялікае ўражанне. Для ўзмацнення гэтага ўражання музей набыў грампласцінкі з запісамі беларускіх песень у выкананні знанага ўжо тады спевака Міхася Забэйды-Суміцкага, і іх прайгравалі на заканчэнне агляду музея. У «запісах» Беларускага навуковага таварыства за 1938 г. паведамляецца, што гадавая колькасць наведвальнікаў музея дасягала пяці тысяч асоб, праводзілася больш за сотню экскурсій.

Польскія ўлады ўсімі спосабамі імкнуліся прыбраць музей у свае рукі, змяніць стыль яго работы, перамаляваць яго шыльду, каб на ёй не было слова «беларускі». Але да гэтага не дайшло дзякуючы бескампраміснай пазіцыі рады Беларускага навуковага таварыства і кіраўніцтва музея. Музей да канца здолеў адстаяць сваю самабытнасць, свае асноўныя мэты.

Не спрыяла развіццю музейнай справы яго цяжкае матэрыяльнае становішча, не было сродкаў на належнае абсталяванне для экспазіцыі, на стварэнне адпаведных умоў захавання экспанатаў, якія адпавядалі б патрабаванням сённяшняга дня. Але найбольш крыўднай была цеснага памяшкання, якая не давала магчымасці размясціць усе вартыя ўвагі экспанаты. Сталымі супрацоўнікамі музея былі: брат заснавальніка Антон Луцкевіч, ён жа і старшыня Беларускага навуковага таварыства, і Уладзімір Самойла, таленавіты публіцыст, які выконваў абавязкі бібліятэкара.

У беластоцкай газеце «Ніва» (за 22 жніўня 1982 г.) В. Склубоўскі пісаў: «У 1936 г. улады прапанавалі Луцкевічу, каб зліць музей з польскім музеем Таварыства прыяцеляў навукі. Дзякуючы паставе Луцкевіча да зліцця не дайшло. У 1938 г. улады запрапанавалі яму стварыць са збораў Літоўскага навуковага таварыства і беларускага музея адзін рэгіянальны музей, прапануючы яму добра платную пасаду кіраўніка гэтага музея, але ён катэгарычна не згадзіўся на гэта». У выніку адмовы музей быў пазбаўлены дзяржаўнай датацыі і быў змушаны існаваць на ахвяраванні грамадства, а супрацоўнікі працаваць бясплатна.

У такім становішчы музей знаходзіўся да пачатку вайны, г. зн. да чарговага падзелу Польшчы ў 1939 г., калі БССР уз'ядналася з Заходняй Беларуссю, сталіцаю якой была абвешчана Вільня. Толькі ж для музея гэта абярнулася чарговым ударам. У нарастаючым працэсе знішчэння беларускай інтэлігенцыі сталінскім рэжымам былі арыштаваны абодва супрацоўнікі музея, многія сябры Беларускага навуковага таварыства, у тым ліку яго шматгадовы скарбнік Антон Нэканда-Трэпка, беларускі сенатар Вячаслаў Багдановіч, журналіст Янка Пазняк ды шмат другіх прадстаўнікоў беларускага актыву.

Тым часам у пачатку лістапада таго ж года Вільня была перададзена Літоўскай рэспубліцы. Музей і Навуковае таварыства, пазбаўленае свайго актыву, на працягу бадай цэлага года амаль не праяўлялі ніякай дзейнасці. Штатных працаўнікоў, а дзеля гэтага і акрэсленых гадзін працы музей не меў. У той складаны час найбольш актыўна музей апекаваў мастак Пётра Сергіевіч.

Толькі з кастрычніка 1940 г. (ужо пасля ўстанаўлення савецкай улады ў Літве) музей распачаў ізноў рэгулярную працу, атрымаўшы новых гаспадароў, бо Беларускае навуковае таварыства перастала існаваць.

Музей быў падпарадкаваны Інстытуту літуаністыкі, а затым створанай на яго базе Акадэміі навук Літоўскай ССР. Дырэктарам музея быў прызначаны малады этнограф Мар'ян Пецюкевіч. Пашырылася значна колькасць супрацоўнікаў музея, у яго калектыў увайшлі мастакі Пётра Сергіевіч і Уладас Дрэма, а таксама журналіст Янка Шутовіч і спецыяліст па нумізматыцы Янка Бэкіш ды яшчэ двое тэхнічных працаўнікоў.

Але такое становішча трымалася нядоўга. Новы этап у існаванні музея распачаўся з наступленнем нямецка-фашысцкай акупацыі. Музей заставаўся непашкоджаным і пры новай уладзе. Літоўская Акадэмія навук з ліку былых супрацоўнікаў прызначыла дырэктарам Янку Шутовіча. Склад супрацоўнікаў змяніўся нязначна. Пакінуў працу ў музеі Пётра Сергіевіч, прыняты быў за бібліятэкара Уладзіслаў Паўлюкоўскі. Як згадвае ў сваіх успамінах Янка Шутовіч, нейкі час працавалі ў музеі Антон Антановіч (пазней доктар філалагічных навук, прафесар Віленскага універсітэта) і Генадзь Цітовіч (пазней народны артыст СССР).

Вядома, плённай дзейнасці музея ў складаны ваенны час чакаць было нельга. Але ж галоўнай заслугай працаўнікоў музея было захаванне яго фондаў ды і нейкая праца па сістэматызацыі экспанатаў вялася, складаліся новыя каталогі.

У пачатку 1944 г. нямецкія акупацыйныя ўлады загадалі музею пакінуць займанае ім памяшканне і перамясціцца ў будынак на вул. св. Ганны, 4 (цяпер Майроніса), дзе размяшчаўся Мастацкі інстытут. Базыльянскія муры былі заняты пад ваенны шпіталь. У новым памяшканні музей дачакаўся вызвалення Вільні ад нямецкай акупацыі, а пазней і сваёй ліквідацыі.

Перад адступленнем немцаў існавала рэальная пагроза, што акупанты паспрабуюць вывезці з Вільні музейныя каштоўнасці. Пра тое, што такая пагроза сапраўды існавала, сведчыць лёс музея ў Мінску, які быў вывезены і загінуў бясследна. Каб ўратаваць найбольш каштоўныя экспанаты ад вывазу, а таксама ў перыяд, калі праз Вільню праходзіла лінія фронту, па ініцыятыве супрацоўнікаў музея гэтыя экспанаты былі запакаваны ў асобныя скрыні і схаваны ў падзямеллях касцёла св. Міхала, які знаходзіўся непадалёку. У касцёле гэтым экспанаты знаходзіліся пад надзейнай апекай ксяндза Адама Станкевіча, выдатнага беларускага культурна-асветнага дзеяча, які пазней стаў ахвяраю сталінскага тэрору.

Праўда, хуткае адступленне акупантаў не дазволіла ім вывезці нават тыя экспанаты, што знаходзіліся ў будынку Мастацкага інстытута, такім чынам фонды музея захаваліся амаль без якіх-колечы страт.

Наступіў апошні перыяд існавання музея, які, здавалася б, павінен быў стварыць умовы для стабілізацыі яго становішча. Як пісаў пазней тагачасны дырэктар музея Янка Шутовіч, цяпер найбольш актуальнай справай было адшуканне новага, прасторнага, адпаведнага для музея памяшкання. Такое памяшканне супрацоўнікі музея знайшлі. Гэта быў асобны будынак, які знаходзіўся на вул. Касцюшкі, 36. На яго 6 кастрычніка 1944 г. быў атрыманы ордэр. Аднак заняць будынак музею не далі, бо канчаткова ён быў прызначаны другой арганізацыі. Калектыў музея змагаўся яшчэ за гэты будынак, але беспаспяхова. Лёс музея вырашаўся ў «вярхах», для якіх праблемы культуры не мелі істотнага значэння. Шутовіч згадваў, што ў канцы лістапада ў музей з'явілася ўрадавая дэлегацыя БССР з прапановай пераезду музея ў Мінск. Гаварылася, што для персаналу будзе забяспечана жыллё і ўмовы для працы, абяцаліся прывабныя перспектывы працы ў Мінску. А на другі дзень і апошні дырэктар музея быў арыштаваны і асуджаны на дзесяць гадоў зняволення...

Тым часам урад Літоўскай ССР прыняў рашэнне зліквідаваць беларускі музей у Вільні, а яго маёмасць падзяліць паміж Літвой і Беларуссю. Для гэтай мэты была створана па сутнасці аднабаковая камісія, якая мела на ўвазе ў першую чаргу інтарэсы літоўскага боку. Такім чынам, па яе рашэнні ўсе экспанаты, якія мелі адносіны да гісторыі літоўскага народа, пакідаліся ў Літве, што, па сутнасці, заканамерна. Аднак улічваючы, што да такіх экспанатаў залічылася ўсё, што мела дачыненне да гісторыі Вялікага княства Літоўскага і ягонай тэрыторыі ад Балтыйскага да Чорнага мора, дык, натуральна, у Беларусь трапіла вельмі нязначная частка экспанатаў.

У выніку ўся бібліятэка і архіўныя матэрыялы трапілі ў сховішчы Цэнтральнай бібліятэкі АН ЛітССР і універсітэта, іканапіс і карціны ў фонды Карціннай галерэі, астатнія экспанаты ў гісторыка-этнаграфічны музей і музей прыкладнога мастацтва Літвы.

Што ж, існуе погляд, што скарбы першага Беларускага нацыянальнага музея знайшлі лепшы прытулак у Літве, чымся маглі атрымаць у Беларусі, знявечанай гістарычным бяспамяцтвам і нацыянальным нігілізмам. Прынамсі, у адносінах да архіўных матэрыялаў гэта бясспрэчная праўда.

Горкая іронія лёсу ў тым, што беларускі музей у Вільні, у колішняй супольнай сталіцы абодвух народаў, які ў міжваенным часе спрыяў яшчэ бліжэйшаму спарадненню народаў Літвы і Беларусі, не змог іграць гэтай шляхецкай ролі ва ўмовах Савецкай Літвы.

г. Вільня.

# «НЯМІГА» НА БЕРАГАХ СЕНЫ

**З 23 студзеня па 11 лютага ў Парыжы праходзілі вядомыя ва ўсім свеце «восеньскія мастацкія салоны». Месцам правядзення салона стала мэрыя «Danmari-Le-LiS». Упершыню ў гісторыі правядзення такіх салонаў у статусе ганаровых гасцей былі запрошаны мастакі творчага аб'яднання «Няміга-17»: М Бушчык, В. Кузняцоў, С. Кірушчанка, Т. Сакалова, А. Мацiевіч, Л. Хобатаў.**

**Дэбют, які перайшоў у трыумф — так можна было б ахарактарызаваць з'яўленне «Нямігі-17» на берагах Сены. Арт-дылеры Францыі, ЗША і іншых заходніх дзяржаў атрымалі вялікую асалоду ад мастацтва нашых землякоў і былі, дарэчы, вельмі здзіўлены такім поспехам. У свеце, дзе мастацтва — яшчэ і бізнес, дзе мастаку на працягу многіх гадоў напрацоўваецца імя, робіцца імідж, такі поспех надзвычай рэдкі.**

**У той жа час у Фантэнбла ў Інстытуце менэджмэнта Еўропы і Азіі адбыўся вернісаж «Няміга-17». На прэс-канферэнцыі з увагай быў заслуханы даклад удзельніка вернісажа Лявона Хобатава аб стане беларускага сучаснага мастацтва. У гонар мастакоў прагучаў скрыпічны канцэрт гурта камернай музыкі «Антон». Адбыліся цікавыя сустрэчы з беларускімі суайчыннікамі за мяжой.**

**Б. ІВАНОЎ.**

# НАШ КАЛЯНДАР

**4 сакавіка споўнілася 35 гадоў з дня выхаду першага нумара штотыднёвай грамадска-палітычнай газеты «Ніва», якая выдаецца ў Беластоку. У «Ніве» рэгулярна публікуюцца матэрыялы, што адлюстроўваюць шматграннае жыццё беларусаў як у Польшчы, так і ў нашай рэспубліцы. Вялікая ўвага ўдзяляецца краязнаўству, гісторыі Беларусі, народнай творчасці. Пастаянныя ў газеце літаратурная старонка «Белавежа» і дзіцячы куток «Зорка».**

**Сёлета, пасля перапынку, «Ніву» зноў можна набыць у нас у кіёску ці падпісацца на яе.**

●

**20 сакавіка спаўняецца 95 гадоў з дня нараджэння яўрэйскага савецкага пісьменніка Майсея Кульбака (трагічна загінуў 17 лістапада 1940 года). Сучаснаму чытачу М. Кульбак вядомы раманам «Зельманцы», які ў перакладзе на беларускую мову В. Вольскага выйшаў у 1960 годзе, і зборнікам паэзіі «Выбранае» (1970, у перакладах Э. Агняцвет, С. Гаўрусёва, Г. Кляўко, Я. Семяжона і іншых). Да гэтай кніжкі прадмову напісаў Р. Бярозкін.**

**Выдаў зборнікі «Вершы» (1920), «Новыя вершы» (1922), раманы «Месія сын Эфроіма» (1924), «Панядзелак» (1926) і іншыя кнігі. Найбольш значныя набыткі — згаданы раман «Зельманцы», а таксама паэма «Дзісненскі Чайльд Гарольд» і драма «Разбойнік Бойтрэ». Апошняя пад назвай «Бойтрэ» была пастаўлена ў 1936 годзе ў Мінску Дзяржаўным яўрэйскім драматычным тэатрам.**

●

**85 гадоў з дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў БССР кампазітара Ісака Любана (памёр у 1975 г.). Сярод шматлікіх твораў — хрэстаматыйна вядомая песня «Бывайце здаровы» на вершы А. Русака.**

●

**85 гадоў з дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў БССР музыказнаўцы-фалькларыста Лідзіі Мухарынскай (памерла ў 1987 г.). Шмат гадоў выкладала ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, займалася збіраннем і вывучэннем беларускага традыцыйнага, рэвалюцыйнага і сучаснага песеннага фальклору.**

# СЛОВА РАЗВІТАННЯ

Не стала Уладзіміра Іванавіча Міцкевіча, былога загадчыка філіяла Літаратурнага музея Якуба Коласа ў Смольні, сына пясняровай сястры Міхаліны.

Дагэтуль ён працаваў у Мікалаеўшчынскай сярэдняй школе імя народнага песняра. Там стварыў першы коласаўскі школьны музей у нашай рэспубліцы. З пачатку верасня 1965 года быў прызначаны загадчыкам філіяла музея Якуба Коласа. Філіял яшчэ будаваўся, і У. Міцкевіч прымаў чынны ўдзел у завяршэнні будаўніцтва і стварэнні экспазіцыі.

Ён далучыўся да ўсіх мерапрыемстваў па аднаўленні і добраўпарадкаванні мемарыяльных коласаўскіх мясцін. Ім зроблена апісанне гэтых мясцін, распрацавана радаводная песняра, запісаны ўспаміны пра Якуба Коласа яго землякоў, выяўлены і сабраны цікавыя звесткі аб прататыпах герояў. Так, ён устанавіў, што зямляк і сябар песняра Аляксандр Антонавіч Сянкевіч быў прататыпам герояў двух класічных твораў савецкай літаратуры — «На ростанях» Якуба Коласа (Алесь Садовіч) і «Разгром» А. Фадзеева (доктар Сташынскі).

У. І. Міцкевіч праводзіў глыбокія, змястоўныя экскурсіі для нямецкіх і польскіх наведвальнікаў філіяла музея на іх роднай мове. Зробленае ім не забудзецца ў народзе.

**Супрацоўнікі Літаратурнага музея Якуба Коласа.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае спачуванне пісьменніку Аркадзю Марціновічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БРАТА.**

